


# Беларус

БЕЦЕ Ў СЭРЦЫ ІХ — БЕЦЕ МЯЧАМІ! НЕ ДАВАЙЦЕ ЧУЖЫНЦАМІ БЫЦЬ!

Максім Багдановіч (1891-1991)

№ 392 Ліпень-Жнівень 1992
Год. выд. XLI

BIELARUS / Byelorussian Newspaper in the Free World. Published by the Byelorussian-American Assn., Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $2.50


## КАНЦЭПЦЫЯ ЭКАНАМІЧНАЙ РЭФОРМЫ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ
### (Заканчэньне. Пачатак у No. 390-391)

**(прапануецца Апазіцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце)**
**Менск, люты 1992 г.**

**Старт рэформаў**

1. Пасьля правядзеньня ўсяго пераліку мераў падрыхтоўчага пэрыяду ўводзяцца ў дзеяньне законы, якія здымуць усе абмежаваньні на камерцыйную дзейнасьць і адменяць усе прымусова устаноўленыя дзяржзаконы і цэны, а таксама ўводзяцца мытныя пошліны, што кампэнсуюць розьніцу рынкавых цэнаў на сыравіну і энэргарэсурсы. Прымаецца альбо Пастанова Вярхоўнага Савету, альбо Пастанова Савету Міністраў.

2. Пасьлядоўна, па спэцыяльнай праграме, праводзіцца прыватызацыя дзяржуласнасьці. Хуткасьць прыватызацыі не залежыць ад увядзеньня рынкавых дачыненьняў.

3. Прыватызуецца ўвесь жыльлёвы фонд па канкрэтнай праграме.

4. Штомесячна карэктуюцца стаўкі падаткаў у адпаведнасьці з сацыяльна-палітычным становішчам.

5. Прадугледжваецца прыярытэтнае фінансаваньне культуры, адукацыі, навукі й іншых напрамкаў, што забясьпечваюць пэрспэктыўнае разьвіцьцё нацыі і дзяржавы.

6. Уводзіцца ўнутраная канвэрсавальнасьць талера.

7. Праводзяцца перамовы з суседнімі краінамі аб прыняцьці сродкаў для разьлікаў, узгадненьне курсу нацыянальных валютаў.

8. Ствараецца ліцэнзійная служба на імпарт, якая вядзе палітыку забароны імпарту тавараў і тэхналёгій зь нізкім узроўнем якасьці.

9. Не радзей аднага разу ў год праводзяцца рэфэрндумы аб даверы органам дзяржаўнага кіраваньня розных узроўняў.

**АГРАПРАМЫСЛОВЫ КОМПЛЕКС. ЗЯМЕЛЬНЫЯ ДАЧЫНЕНЬНІ. ПРЫВАТАЗЫЦЫЯ ЗЯМЛІ**

Выйсьце з крызісу немагчымае без кардынальнай зямельнай рэформы, у аснове якой павінна ляжаць зьмена дачыненьняў уласнасьці. Толькі надзяліўшы сельскагаспадарчага вытворцу правам прыватнай уласнасьці на зямлю, можна дасягнуць галоўнай мэты зямельнай рэформы — падвышэньня эфэктыўнасьці вытворчасьці ды якасьці землекарыстаньня, стварэньня канкурэнтаздольнай таварнай сельскагаспадарчай вытворчасьці. Прыватызацыя зямлі ня толькі магчымая, але й неабходная, бо яна ёсьць адною з найважнейшых умоваў усталяваньня рынкавых дачыненьняў у эканоміцы, гарантам вольнае прадпрымальніцкае дзейнасьці вытворцы. У пераходны пэрыяд прыватызацыя зямлі найбольш эфэктыўна стабілізуе фінансавую сыстэму, зьвязваючы вялікую частку вольных сродкаў. Зямля, што выкарыстоўваецца для сельскай гаспадаркі, ёсьць сродкам вытворчасьці і мае спажывецкую вартасьць. Прыватызацыя зямлі ня можа праводзіцца асобна ад прыватызацыі іншае дзяржаўнае ўласнасьці, гэтаксама й наадварот. Суб'ектамі прыватызацыі зямлі могуць быць усе грамадзяне Рэспублікі Беларусі незалежна ад месца жыхарства й працы.

Пераважнае права сялян на бязвыплатную прыватызацыю часткі асноўных вытворчых і зямельных фондаў у сваіх саўгасах і калгасах неабходна замацаваць заканадаўча, але толькі ў межах адпаведных велічыняў (сумаў) прыватызацыйных чэкаў (інфэстыцыйных рахункаў), вызначаных заканадаўствам Рэспублікі Беларусі аб прыватызацыі. Прыватызацыя зямельных надзелаў (плошчаў) звыш нарматыўных памераў ажыцьцяўляецца праз выкуп, доўгатэрміновую арэнду ды іншыя формы землекарыстаньня, вызначаныя заканадаўствам Рэспублікі Беларусі й мясцовымі органамі ўлады.

Прыватызацыю зямлі неабходна праводзіць раўналежна з прыватызацыяй іншае дзяржаўнае ўласнасьці, у т.л. вытворчых прадпрыемстваў. Толькі выкананьне гэтай умовы дазволіць грамадзянам найлепш зарыентавацца ў выбары сфэры свае дзейнасьці або ўкладаньня капіталу падчас фармаваньня рынкавых дачыненьняў. Адставаньне працэсу прыватызацыі зямлі будзе мець адмоўныя наступствы ня толькі для сельскагаспадарчай вытворчасьці, але й для эканамічнай рэформы ў цэлым.

Прынцыпы прыватызацыі павінны быць розныя для земляў рознага прызначэньня.

Для земляў сельскагаспадарчага прызначэньня якія зьяўляюцца сродкам вытворчасьці, стасуецца падыход, аналягічны ўжыванаму для прыватызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў: частка дзяржаўнай уласнасьці прыватызуецца бязвыплатна па іменных прыватызацыйных рахунках.

Забесьпячэньне права кожнага грамадзяніна Рэспублікі на прыватызацыю земляў сельскагаспадарчага прызначэньня не толькі адпавядае прынцыпу сацыяльнай справядлівасьці, але й ставарае ўмовы аптымальнага пераразьмеркаваньня й эфэктыўнага ўключэньня ў стваральную дзейнасьць вызваленых працоўных рэсурсаў гораду. Пры гэтым жорсткая клясыфікаыя земляў сельскагаспадарчага прызначэньня, прыватызацыя якіх ажыцьцяўляецца бязвыплатна, а таксама абмежаваньне права распараджэньня зямлёй на пэўны тэрмін ствараюць дастатко-

(Працяг на 2-й б.)

---

БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ і ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ
запрашаюць беларускае грамадзтва на
***20-ю СУСТРЭЧУ БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ,***
якая адбудзецца сёлета ў *LABOR Day Weekend*
**5-7 верасьня ў Гайлянд Парку — Нью Браўнсвіку, шт. Нью Джэрзі.**
ТЭМА СУСТРЭЧЫ: **БЕЛАРУСЬ на шляху да незалежнасьці (у 75-ыя ўгодкі 1-га Ўсебеларускага Кангрэсу)**
ПРАГРАМА СУСТРЭЧЫ:

*Субота 5-га верасьня:* **гадз. 10:30 — Памінальная Служба на Беларускім Магільніку ў Іст-Браўнсвіку.**
**гадз. 1:00 — Адкрыцьцё сустрэчы. Сымпозыюм: Беларусь на шляху да Незалежнасьці.**
**5:00 — Спатканьне былых вучняў гімназіі ім. Я. Купалы;**
**гадз. 9:00 — Баль сустрэчы ў залі Беларускага Грамадзкага Цэнтру ў г. Саўт Рывэры.**

*Нядзеля 6-га верасьня:* **гадз. 10:00 — Архірэйская служба Божая ў царкве Сьв. Жыровіцкае Маці Божай у Гайлянд Парку, шт. Нью Джэрзі;**
**гадз. 1:00 — Урачысты банкет у Regency Ball Room; вітаюць сустрэчу: Юрка Азарка, старшыня сустрэчы, Антон Шукелойц, старшыня БАЗА, Міхась Ганько, старшыня ЗБК.**
**Галоўныя прамоўцы: др. Вітаўт Кіпель, старшыня БІНіМ; Генадзь Бураўкін, Амбасадар Рэспублікі Беларусь пры ААН, амэрыканскія прадстаўнікі.**
**КАНЦЭРТ.**
**гадз. 4:00 — Нарады беларускіх арганізацыяў: Фонду «Адраджэньне», Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі і інш.**

*Камітэт Сустрэчы просіць арганізацыі паведамляць аб колькасьці ўдзельнікаў як мага раней на нумары тэлефону:* **tel. 908-545-6654 або 908-246-2145.**
**John Azarko 154 Emerson Road Somerset, N.Y. 08873-1617**

---

**BELARUSAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.**
**and the**
**BELARUSAN-CANADIAN ALLIANCE**
**have the honor to request your presence**
**at a banquet and concert commemorating the**
**75th ANNIVERSARY**
**of**
**THE FIRST ALL-BELARUSAN CONGRESS**
**to be held on**
**SUNDAY, SEPTEMBER 6, 1992 AT 1:00 PM**
**in the Hyatt Regency (Regency Ballroom)**
**Two Albany Street**
**New Brunswick, New Jersey**
**RSVP by August 30, 1992**

Tickets: $30 per adult **No tickets at the door**
$20 per student

For information:

| Mr. George Azarko | Mr. John Chanenka | Mr. M. Ganko | Ms. Alla Romano |
|---|---|---|---|
| (908) 560-8610 | (216) 781-7231 | (416) 267-0798 | (516) 627-6491 |

---

## СУСТРЭНЕМСЯ!

5-га верасьня 1992 г. у Нью Браўнсвіку былыя гімназісты і настаўнікі Беларускай Гімназіі імя Янкі Купалы у часе 20-ае Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі.

**У праграме:**

Я. Максімюк — паінфармуе аб кнізе пра Гімназію.
Вучні й настаўнікі падзеляцца ўспамінамі, цікавымі эпізодамі з жыцьця Гімназіі.
Таксама будзе наладжана выстава працаў гімназіі, дыплёмаў, падручнікаў і ФАТАГРАФІЯЎ
Прыязджайце зь сямёю й сябрамі успамянуць дні маладосьці.

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

**Канцэпцыя эканамічнай рэформы**

***(працяг)***

вую гарантыю ад усемагчымых маніпуляцыяў зь зямлёю, дазволіць звузіць кола суб'ектаў прыватызацыі, г. зн. выявіць менавіта грамадзянаў ахвочых гаспадарыць на зямлі.

Прыватызацыю зямлі неабходна праводзіць у некалькі этапаў.

На першым этапе прыватызацыі павінны падлягаць ня ўсе землі, а іх істотная частка (30-40 %; доля вызначаецца Канцэпцыяй ці Законам аб прыватызацыі дзяржаўнай уласнасьці Рэспублікі Беларусі). Гэтая частка павінна быць дастатковаю, каб задаволіць інвэстыцыйны попыт першага этапу прыватызацыі. Такі попыт адпавядае суме мэтавых (зямельных) прыватызацыйных чэкаў (інвэстыцыйных рахункаў) грамадзянаў Рэспублікі і зьяўляцца справядлівым вымярэньнем мінулае працы цяперашняга пакаленьня.

Астатняя, не прыватызаваная на першым этапе, частка зямельнага фонду складзе стратэгічны запас прыватызацыі і будзе стымуляваць прадпрымальніцкую актыўнасьць сельскагаспадарчых вытворцаў, створыць умовы для натуральнага фармаваньня аптымальных вытворчых структураў як паводле маштабу (плошчы), гэтак і па формах гаспадараньня.

Узьнікнуць аграрныя гаспадаркі, якія заснаваны на зямельных дзялянках, набытых у прыватную ўласнасьць паводле заканадаўства аб прыватызацыі, але арандуюць значныя плошчы зямлі з правам наступнага выкупу. Менавіта канкурэнцыя гаспадарак розных формаў арганізацыі і ўласнасьці вызначыць найбольш пэрспэктыўныя зь іх.

Пры такім падыходзе гарантуецца непасрэдная зацікаўленасьць мясцовых уладаў як арэндаўцаў, што зьяўляецца галоўнаю ўмовай жыцьцядзейнасьці ўсякай палітычнай і эканамічнай рэформы, галоўным зьвяном мэханізму рэалізацыі кожнага закону.

Паэтапная прыватызацыя зямлі дазволіць пазьбегнуць сацыяльных канфліктаў, неапраўданага падштурхоўваньня распаду цяперашніх вытворчых структураў — калгасаў і саўгасаў, актыўна ўключыць эканамічны мэханізм на другім этапе яе ажыцьцяўленьня, засьцеража ад стратэгічных памылак у правядзеньні зямельнай рэформы й будзе спрыяць станаўленьню эфэктыўнай сярэдняй і буйной таварнай вытворчасьці ў аграрным сэктары.

Рынак зямельнага фонду на другім, доўгатэрміновым этапе ягонай прыватызацыі створыць умовы для руху свабодных сродкаў з гарадзіх і прамысловых агляямэрацыяў у сельскую мясцовасьць, што паспрыяе выроўніваньню эканамічнага разьвіцьця ўсіх рэгіёнаў Рэспублікі.

Правядзеньне прыватызацыі зямлі ў два этапы (першы — абмежаваны ў часе і другі — зь неабмежаваным тэрмінам) дазволіць адпаведным дзяржаўным службам падрыхтаваць навуковую й праектную дакумэнтацыю, неабходную для правільнага ходу зямельнай рэформы. Землі павінны давацца дзеля мэтаў, вызначаных генэральнымі плянамі тэрыторыяў і пасялішчаў, праэктамі землеўпарадкаваньня, складзенымі з улікам новай зямельнай палітыкі.

Асноўным рэгулятарам эканамічных і сацыяльных інтарэсаў сельскагаспадарчага вытворцы, дзяржаўных і мясцовых органаў улады павінен стаць падатак на зямлю. Навукова абгрунтаваныя стаўкі падаткаў, залежныя ад яе якасьці і месца разьмяшчэньня, павінны, з аднаго боку, зацікавіць уладальніка й карыстальнікаў зямлі гаспадарыць эфэктыўна, руліцца пра палепшаньне якасьці зямлі і, з другога боку, зацікавіць мясцовыя органы ўлады, бюджэты якіх у значнай ступені будуць фармавацца з паступленьняў ад падатку на зямлю, ажыцьцяўляць зямельную рэформу праз рацыянальнае й эфэктыўнае выкарыстаньне ўсіх земляў пад сваёй юрысдыкцыяй.

Галоўнымі функцыямі дзяржаўных органаў аграпрамысловага комплексу (міністэрства, дзяржаўныя агранамічныя, заатэхнічныя, інжынэрна-тэхнічныя службы) павінны быць падтрымка станаўленьня новых формаў гаспадараньня, навукова-тэхнічнае й навукова-мэтадычнае іх забесьпячэньне. Дзяржава павінна адмовіцца ад функцыі рэгуляваньня аплаты працы, акрамя вызначэньня мінімальнай заработнай платы наёмных працаўнікоў незалежна ад формы ўласнасьці ў гаспадарках.

Пры правядзеньні зямельнай рэформы павінны захоўвацца тры найважнейшыя прынцыпы.

1. Прынцып дзяржаўнай (стратэгічнай) мэтазгоднасьці.

а) Прыватызацыя зямлі вызначаецца як прыярытэтны дзяржаўны акт, які забясьпечвае эканамічныя й сацыяльныя інтарэсы грамадзянаў Рэспублікі Беларусі й нацыянальныя інтарэсы ў цэлым. Прыватызацыя зямлі сельскагаспадарчага прызначэньня (1-шы этап) грамадзянамі Рэспублікі Беларусі праводзіцца ў як мага сьціслыя тэрміны.

б) Абгрунтоўваецца навуковы падыход да стратэгіі зямельнай рэформы й разьмеркаваньня земляў для сельскагаспадарчых патрэбаў, садоўніцкіх і агародніцкіх мэтаў (напр., лецішчаў), дзялянак індывідуальнага жыльлёвага будаўніцтва ды іншых мэтаў. Разьмеркаваньне зямельнага фонду павінна адбывацца на падстава спэцыяльна распрацаваных генэральных плянаў і праэктаў землеўпарадкаваньня, якія б улічвалі пэрспэктыву разьвіцьця паселішчаў, рэгіёнаў, галінаў, патрэбу ў працоўных рэсурсах, забясьпечанасьць сацыяльнай ды інжынэрнай інфраструктурай, экалягічны стан ды іншыя чыньнікі.

Прыярытэт павінна мець разьвіцьцё сярэдняй і буйной таварнай вытворчасьці, недапушчэньне драбненьня зямельных фондаў і цераспалосіцы. Акрамя адміністрацыйных захадаў, заснаваных на навуковым падыходзе да тэрытарыяльнай арганізацыі, дзейснай будзе галоўным чыным эканамічная адказнасьць, вызначаная падаткам на зямлю й абмежаваньнем на некалькі гадоў права ўласьніка распараджацца зямельнаю дзялянкай.

У галіне асабістых зямельных надзелаў прыярытэт адназначна трэба надаць разьвіцьцю сялібных зонаў індывідуальнай забудовы зь дзялянкамі зямлі, дастатковымі для задавальненьня садоўніцка-агародніцкіх патрэбаў сям'і й разьмешчанымі ў межах населеных пунктаў або ў непасрэднай блізкасьці ад гэтых населеных пунктаў і вытворчых аб'ектаў.

в) Захоўваюцца й разьвіваюцца дзяржаўныя навукова-дасьледчыя, сэлекцыйныя й досьледныя цэнтры.

Ствараюцца й папулярызуюцца прагрэсіўныя тыповыя праэкты сялянскіх фэрмэрскіх гаспадарак з рознаю спэцыфікай вытворчасьці, з рознымі сыстэмамі энэргазабесьпячэньня (у т.л. аўтаномнага), сховішчаў і тэхналёгіяў перапрацоўкі.

г) Экспартны патэнцыял Рэспублікі ствараецца шляхам дзяржаўным інвэстыцыяў у перапрацоўку сельскагаспадарчай прадукцыі, у тым ліку ў асваеньне новых тэхналёгіяў, у стымуляваньне вытворчасьці традыцыйных (лён, грэчка, садавіна) і новых культураў (ягады, грыбы).

2. Прынцып эканамінай эфэктыўнасьці.

а) Адмова ад дырэктыўнага пляна-ваньня.

б) Адмова ад дзяржаўных датацыяў нерэнтабельным гаспадаркам.

в) Зацьверджаньне адзінага для ўсіх эканамічнага інструмэнту дзяржаўнага рэгуляваньня — падатку на зямлю, вызначанага ў абгрунтаваных для канкрэтнага рэгіёну й якасьці зямлі межах.

3) Прынцып сацыяльнай справядлівасьці.

а) Роўнасьць усіх грамадзянаў Рэспублікі Беларусі ў правох на прыватызацыю дзяржаўнай уласнасьці, уключаючы зямлю.

б) Права кожнага грамадзяніна Рэспублікі атрымаць зямельную дзялянку для будаўніцтва індывідуальнага жылога дому.

в) Дабрахвотнасьць і непрымусовасьць у ходзе зямельнай рэформы, калі кожны грамадзянін мае права сам вызначаць мейсца й форму працоўнае дзейнасьці.

Мерапрыемствы 1-га этапу зямельнай рэформы:

1. Адмяніць акты передачы зямлі ў бестэрміновае карыстаньне калгасам і саўгасам і надаць усім гэтым гаспадаркам права карыстацца зямлёй на ўмовах арэнды.

Інвэнтарызаваць усе землі на тэрыторыі Рэспублікі.

2. Заканадаўча й нарматыўна забясьпечыць зямельную рэформу, зьмяніўшы цяперашняе заканадаўства (Кодэкс аб зямлі, Закон аб платах за зямлю й адпаведныя нарматыўныя акты) і прыняўшы новае заканадаўства (Закон аб праве ўласнасьці на зямлю, Закон аб прыватызацыі дзяржаўнай уласнасьці і г. д.).

3. Тэрмінова да траўня 1992 г. і да студзеня 1993 г. правесьці праэктна-вышуковыя працы дзеля стварэньня новых генэральных плянаў усіх паселішчаў і тэрыторыяў Рэспублікі дзеля рэалізацыі тэрміновага й першага этапаў зямельнай рэформы.

Актывізаваць працу навукова-праэктных падразьдзяленьняў па праблемах тэрытарыяльнага разьвіцьця Рэспублікі Беларусі.

4. Распрацаваць і ажыцьцявіць асноўныя палажэньні дзяржаўнай праграмы зямельнае рэформы і льготнае крэдытаваньне наваствораных сялянскіх гаспадарак, іх матэрыяльна-тэхнічнае й навукова-мэтадычнае забесьпячэньне. Дзеля гэтага стварыць Зямельны банк, спэцыяльныя дзяржаўныя матэрыяльныя фонды, арганізаваць курсы падрыхтоўкі (адукацыі) сельскагаспадарчых спэцыялістаў (фэрмэраў).

Спэцыяльныя дзяржаўныя матэрыяльныя фонды павінны забясьпечваць мінімальную патрэбу ў тэхнічных сродках усім наваствораным сялянскім гаспадаркам.

5. Стварыць заканадаўчыя ўмовы для здачы ў канцэсіі тэрмінам да 50 — 100 гадоў пэўнай колькасьці зямлі замежным спэцыялістам дзеля стварэньня фэрмэрскіх гаспадарак, будаўніцтва аб'ектаў перапрацоўкі прадукцыі.

6. Паколькі сельскагаспадарчая галіна здольная даць найхутчэйшы эканамічны эфэкт, знайсьці магчымасьць інвэставаць неабходныя бюджэтныя сродкі на стварэньне й разьвіцьцё вытворчасьці сельскагаспадарчай тэхнікі для фэрмэрскіх гаспадарак, у тым ліку праз канвэрсію абароннай прамысловасьці.

7. Надаць усім ахвочым грамадзянам Рэспублікі зямельныя дзялянкі для будаўніцтва й абслугоўваньня індывідуальнага жылога дому. Распрацаваць і распачаць ажыцьцяўленьне праграмы рэзкага павелічэньня вытворчасьці будаўнічых матэрыялаў, фінансава-крэдытнага забесьпячэньня забудоўнікаў.

8. Распрацаваць асобныя прынцыпы сацыяльнага забесьпячэньня пэнсіянэраў ды іншых маламаёмных пластоў сельскага насельніцтва ва ўмовах зямельнай рэформы.

Мясцовыя органы ўлады, якія атрымліваюць у бюджэт асноўную частку зямельнага падатку, павінны ўзяць на сябе ўсе функцыі сацыяльнага забесьпячэньня, якія цяпер выконваюць калгасы.

## СТВАРЭНЬНЕ ГРАШОВАЙ СЫСТЭМЫ, УВЯДЗЕНЬНЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ГРАШОВАЙ АДЗІНКІ

Розныя ўзроўні разьвіцьця, розныя структуры эканомік дзяржаваў былога СССР, розныя падыходы да рэфармаваньня камандна-адміністрацыйнай сыстэмы гаспадараньня, нацыянальна-гістарычныя асаблівасьці аб'ектыўна не дазваляюць у сёньняшніх умовах нармальна функцыянаваць адзінай грашовай сыстэме з адзінай грашовай адзінкай на тэрыторыі гэтых дзяржаваў. Разбалансаванасьць таварна-грашовых патокаў, бескантрольная крэдытная і наяўна-грашовая эмісія, перарастаньне галапуючай інфляцыі ў гіперінфляцыю з аднaчасным зьніжэньнем вытворчасьці вымагаюць фарсіраванай працы па стварэньні нацыянальнай грашовай сыстэмы і ўвядзеньня нацыянальнай грашовай адзінкі — Талера. Уваходжаньне Беларусі разам зь іншымі дзяржавамі ў адзіную грашовую сыстэыму (эўрапейскую, ці разам зь дзяржавамі былога СССР), можна разглядаць як не блізкую персьпектыву. Стабілізацыя існуючай грашовай сістэмы немагчымая. Яна можа адбыцца толькі шляхам ліквідацыі незалежных дзяржаваў і вяртаньня да ўнітарнай, таталітарнай дзяржавы.

Асноўнымі задачамі стварэньня беларускай грашовай сыстэмы зьяўляюцца:

— збалансаваньне таварна-грашовых патокаў;

— стварэньне механізму кантролю і рэгуляваньня грашовага абарачэньня;

— мінімізацыя інфляцыі;

— пераход да ўнутранай, а ў пэрсьпэктыве і поўнай канверсуемасьці беларускай грашовай адзінкі.

Стварэньне беларускай грашовай сыстэмы неабходна разглядаць у кан-

*(Заканчэньне на б. 3.)*

*Канцэпцыя эканамічных рэформаў*

*(Заканчэньне)*

тэксце радыкальнай эканамічнай рэформы — стварэньня ўмоваў функцыянаваньня рынчачных механізмаў — правядзеньня поўнамаштабнай прыватызацыі, зямельнай рэформы, ліквідацыі манапалізму, стварэньня рынкаў тавараў, працы, капіталаў, прывядзеньня структуры ўнутраных цэнаў да супастаўленасьці з сусьветнымі цэнамі, да структурных зьменаў у эканоміцы.

Стварэньне ўласнай грашовай сыстэмы, увядзеньне беларускіх грошай вымагаюць правядзеньня наступных мерапрыемстваў:

— структурная перабудова эканомікі накіроўваецца на стварэньне экспартнай базы, на ліквідацыю залежнасьці ў пастаўках сыравіны і камплектацыі ад асобных краінаў;

— збалансаваць плацёжны баланс. Структура экспарту-імпарту павінна быць зьменена і адпавядаць інтарэсам Беларусі;

— прыступіць да стварэньня ўнівэрсальнай аўтаматызаванай банкаўскай сыстэмы з перспэктывай уключэньня ў сусьветную банкаўскую сістэму;

— павінна быць заканадаўча забаронена прадастаўленьне ўрадам дэфіцытнага бюджэту; скарочваюцца бюджэтныя расходы, зьніжаецца доля пераразьмеркаваньня праз бюджэт нацыянальнага даходу, лібералізуецца падаткавая сыстэма;

— нягледзячы на агульнапрынятую дэманетызацыю золата неабходна прыступіць да стварэньня залатога запасу, першы ўзнос павінен паступіць за кошт разьдзелу залатога запасу былога СССР;

— прыступіць да паступовага аслабленьня і ліквідацыі валютных абмежаваньняў;

— стварыць заканадаўчае стымуляваньне і гарантыі прытоку замежнага капіталу і тэхналёгіі, забясьпечыць абарону айчынных вытворцаў;

— ліквідаваць разрыў для суб'ектаў эканамічнай дзейнасьці паміж унутрыгаспадарчай і зьнешнеэканамічнай сьферамі;

— лібералізаваць абарот замежнай валюты на тэрыторыі Беларусі

— стварыць рэзэрвы замежнай валюты (за кошт крэдыту) для забесьпячэньня беларускіх грошай;

— на момант увядзеньня беларускай грашовай адзінкі маса грошай у абарачэньні прыводзіцца ў адпаведнасьць з таварнай масай.

У сувязі з сітуацыяй, якая склалася, неабходна тэрмінова прыступіць:

— да правядзеньня мерапрыемстваў па абароне мытнай прасторы і дзяржаўнай мяжы па ўсяму перыметру;

— разьмясціць заказ за межамі Беларусі на друкаваньне наяўных грошай;

— да стварэньня ўласнай паліграфічнай базы па вырабу каштоўных папераў;

— да правядзеньня перамоваў аб парадку і тэрмінах увядзеньня нацыянальных валютаў зь дзяржавамі былога СССР.

### ПРАГРАМА МЕРАЎ ПА СТАБІЛІЗАЦЫІ ЭКАНОМІКІ БЕЛАРУСІ

Дасягненьне стабільнасьці эканомікі Беларусі, увядзеньне ў поўнай меры рынкавых механізмаў рэгуляваньня з улікам зьнешніх і ўнутраных эканамічных працэсаў і варункаў укладаецца ў пяць этапаў.

1. **Першы этап.**
   1.1 Рэарганізацыя структураў і функцыяў вярхоўных заканадаўчых, выканаўчых і кантрольных уладаў.
   1.2. Абмежаваньне дэстабілізуючых стасункаў, у тым ліку:
   — прыпыніць прыватызацыю і навесьці парадак у выкарыстаньні усёй дзяржаўнай уласнасьці;
   — правесьці комплексныя меры па абароне спажывецкага рынку;
   — прыняць дзяржбюджэт з улікам дзяржаўных прыярытэтаў і захаваньня інтэлекту дзяржавы;
   — зьмяніць парадак і накірунак дзяржзаказаў;
   — правесьці комплекс мераў па сацыяльнай абароне насельніцтва
   — спыніць адмоўныя працэсы ў гандлі, ліквідаваць Міністэрства гандлю і ўпраўленьні гандлю пры выканкамах, рэарганізаваць аптовы гандаль;
   — усталяваць падатковую палітыку, забясьпечваючую пашырэньне вытворчасьці тавараў, прыцягненьне матэрыяльных і таварных рэсурсаў на ўнутраны рынак;
   — правесьці меры па актывізацыі зямельнай рэформы;
   — стварыць рэальныя ўмовы для доступу непасрэдных патэнцыяльных таваравытворцаў да свабодных ці неэфектыўна працуючых дзяржаўных сродкаў вытворчасьці праз аукцыёны і арэнду разбурыць манаполію дырэктарскага корпусу дзяржаўных прадпрыемстваў на распараджэньне дзяржаўнай маёмасьцю;
   — стварыць умовы для функцыянаваньня рынкавых механізмаў матэрыяльна-тэхнічнага забесьпячэньня прамысловасьці і сельскай гаспадаркі;
   — стварыць сыстэму пошлінаў і мытнага кантролю, спрыяльных для напаўненьня матэрыяльнымі і таварнымі рэсурсамі унутранага рынку;
   — правесьці першы этап увядзеньня ўласных грашовых знакаў (шматразовых купонаў).

Тэрмін правядзеньня першага этапу — 2 месяцы з мамэнту рэарганізацыі вярхоўных уладаў.

2. **Другі этап**
   2.1. Правядзеньне актыўнай дзяржаўнай палітыкі па пашырэньню колькасьці таваравытворцаў у прамысловасьці і сельскай гаспадарцы, правядзеньне актыўнай дзейнасьці па канверсіі ў прамысловасьці.
   2.2. Рэарганізацыя крэдытна-банкаўскай дзейнасьці.
   2.3. Усталяваньне актыўнай дзяржаўнай інвестыцыйнай палітыкі ў паліўна-энергетычных, сыравінных галінах.
   2.4. Правядзеньне ў жыцьцё праграмы і мераў па ўвядзеньню ўласнай грашовай сістэмы.
   2.5. Распрацоўка і прыняцьце парадку і праграмы на прыватызацыі усіх відаў дзяржаўнай маёмасьці.
   2.6. Стварэньне спрыяльных варункаў для дзейнасьці прадпрыймальніцкіх структураў, льготных умоваў для прыватных інвестыцый у новае будаўніцтва, арганізацыю новых рабочых месцаў.
   2.7. Рэарганізацыя структуры і функцыі мясцовых уладаў.

## ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ




34-ы Тыдзень Паняволеных Народаў адзначаўся сёлета ад 12-га да 18-га ліпеня гэтаксама ўрачыста як і мінулымі гадамі, хоць шмат якія, раней паняволеныя народы, здабылі ўжо незалежнасьць. БАЗА ўдзельнічала ў колькіх урачыстасьцях у Нью Ёрку, а сярод іх у Спэцыяльнай Багаслужбе ў Катэдры Сьв. Патрыка ды ў парадзе на 5-ым Авэню ў Нью Ёрку. (Фатаграфія зьлева: Сп. А. Шукелойць і сябра БАЗА А. Злобін перад Катэдрай). Заканчэньне Тыдня абылося ў Эстонскай Лютэранскай Царкве, дзе сп-ня Рая Станкевіч выступіла з інфармацыяй пра палітычны стан у Беларусі у часе бяседы.

## АМЭРЫКАНСКІ ПАСОЛ У МЕНСКУ ПРА БЕЛАРУСАЎ АМЭРЫКІ

Карэспандэнт газэты «Зьвязда» (29.IV.92) паставіў пытаньне паслу ЗША ў Беларусі сп. Дэвіду Сўорцу: «Скажэце, калі ласка, амэрыканцы ў масе сваёй ведаюць, што ёсьць такая незалежная дзяржава — Беларусь?»

На гэта сп. Сўорц адказаў:

«Канешне, ведаюць. Усе амэрыканцы, прынамсі, дарослыя, уважліва сочаць за падзеямі ў гэтай частцы сьвету. Апрача таго, у Амэрыцы ёсьць дастаткова вялікая беларуская эміграцыя — некалькі соцен тысяч чалавек, выдаюцца газэты, часапісы».

**Карэспандэнт:** «Можна сказаць, што беларускія суполкі адыгрываюць даволі значную ролю ў грамадзкім жыцьці Амэрыкі?»

**Пасол:** «Я не хацеў-бы перабольшваць іх значнасьць, але, тым ня менш, у штатах, дзе беларусаў шмат — у Каліфорніі, Джэрзі, Мічыгане — яны адчувальна ўплываюць не сацыяльныя, эканамічныя і палітычныя працэсы».

Дарэчы, сп. Сўорц таксама сказаў: «Мы верым у палітычную стабільнасьць Беларусі. І гатовы гэта даказаць. У нас ёсць урадавая арганізацыя ОПІК (Overseas Private Investment Corporation — рэд. «Б-са»), якая гарантуе ўкладаньні прыватных амэрыканскіх фірмаў у любую краіну ад палітычнай рызыкі. Дык вось, ужо падрыхтаванае і на днях будзе падпісанае пагадненьне паміж ОПІК і Беларускім камітэтам па зьнешнеэканамічных сувязях. Такім чынам, амэрыканскія прадпрымальнікі будуць укладаць у вашу эканоміку грошы бяз боязні іх страціць... Бачацца шырокія прэспэктывы ў гандлі».

Тэрмін правядзеньня другога этапу — пяць месяцаў. Завяршэньнем этапу зьяўляецца ўвядзеньне уласных грошай.

3. **Трэці этап.**
   3.1 Усталяваньне рэгулюемасьці эканамічных працэсаў: стварэньне антыманапольных варункаў.
   — стварэньне ў прамысловасьці да 100-150 тыс. юрыдычных асобаў (таваравытворцаў);
   — арганізацыя ў сельскай гаспадарцы да 30 тыс. таваравытворцаў (калектыўных і фермерскіх гаспадарак);
   3.2. Правядзеньне актыўнай дзейнасьці выканаўчых органаў па стварэньні варункаў для шматканальных сувязяў па паліўна-энергетычным, сыравінным, матэрыяльна-тэхнічным забесьпячэньні ўнутранага рынку.
   3.3. Пераход на структуру і прапорцыі сусьветных цэнаў.
   3.4. Правядзеньне ўсёй падрыхтоўчай праграмы прыватызацыі (інвентарызацыя дзяржаўнай уласнасьці, стварэньне неабходных банкаўскіх структураў, аукцыёнаў, інфармацыйных сродкаў, біржаў, каштоўных папераў і інш.).

Тэрмін выкананьня трэцяга этапу — ад увядзеньня ўласнай грашовай сыстэмы да ўсталяваньня антыманапольных варункаў у прамысловасьці, сельскай гаспадарцы і гандлю.

4. **Чацьверты этап.**

Правядзеньне прыватызацыі. Поўны пераход на рынкавыя мэханізмы рэгуляваньня эканомікай.

Тэрмін выкананьня ад пачатку прыватызацыі да прыватызацыі 60% дзяржаўнай маёмасьці і ўласнасьці (прыкладна, 2 гады).

5. **Пяты этап.**

Уваходжаньне ў сусветную эканоміку ў якасьці актыўнага суб'екта.

Тэрмін — 5-ць год пасьля 4-га этапу.

Галоўнымі крытэрыямі ацэнкі выбару шляхоў у правядзеньні рэформы зьяўляюцца:
— уздым дзелавой актыўнасьці ў накірунку непасрэднай вытворчасьці тавараў, у першую чаргу, спажывецкіх;
— напаўненьне рынку спажывецкімі таварамі;
— утрыманьне сацыяльнай абароны насельніцтва ў пераходны перыяд на прыймальным узроўні канфліктнасьці;
— захаваньне і разьвіцьцё інтэлектуальнага патэнцыялу;
— забесьпячэньне эквівалентнага выгаднага тавараабмену і гандлю з замежнымі краінамі.

Мерапрыемствы усіх этапаў замацоўваюцца прыняцьцем адпаведных законаў, заканадаўчых актаў і папраўак да дзеючых законаў. На першым і другім этапах адмяніць дзейнасьць падзаконных актаў Савета Міністраў, Міністэрства Фінансаў, Цэнтральнага банку.

Над канцэпцыяй працавала эканамічная група Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Беларусі:

Уладзімер Заблоцкі (агульная канцэпцыя), Юры Беланькі (грашовая сыстэма), Лявонці Зданевіч (зямельнае пытаньне), Сяргей Папкоў (праграма стабілізацыі), Зянон Пазьняк (уводзіны).

# 50-ЦІ ГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ РАДЫ Ў ЧЫКАГА

1941 1991

50

ANNIVERSARY OBSERVANCE BELARUSIAN-AMERICAN NATIONAL COUNCIL CHICAGO, ILLINOIS

Сьвяткаваньне Залатога Юбілею Беларуска-Амэрыканскай Нацыянальнай Рады ў Чыкага, адбылося 24-га траўня сёлета ў залі Беларускай Праваслаўнай Царквы Сьв. Юр'я. Было яно арганізаванае сябрамі Управы арганізацыі. Запрошаныя госьці з адданеных штатаў прыбывалі днём раней і былі расквартараваныя ў землякоў.

У нядзелю, а 10-ай гадзіне ранцы ў царкве распачалася сьв. Літургія. Пасьля Літургіі быў адслужаны малебен за Беларусь і беларускі народ, у часе якого сп. сп. Сяргей Мурог і Пётра Каленік трымалі амэрыканскі і беларускі дзяржаўныя сьцягі.

Малебен закончыўся магутным многалецьцем Амэрыканскаму й Беларускаму народам. Дзень гэты застанецца памятным днём у 34-х гадовай гісторыі Беларускага праваслаўнага прыходу Сьв. Юрыя, бо ўпяршыню ў ягоных мурох былі прысутныя дыпляматы Рэспублікі Беларусь і разам з усімі слухалі гімны да Бога, за Беларусь і беларускі народ.

Пасьля малебну а. Міраслаў, настаяцель прыходу, запрасіў усіх прысутных у царкоўную залю на абед і юбілейную урачыстасьць. Прысутныя занімалі мейсцы за сталамі ўпрыгожаными букетамі кветак: з сымбалічнага для Беларусі васілька, чырвоных макаў і буйных каласоў пшаніцы.

Аляксандар Шышко папрасіў усіх напоўніць чары, прывезеным зь Менску віном, а Аўген Макарэвіч, адказны за падрыхтоўку абеду, прапанаваў усім выпіць тост за першую афіцыяльную сустрэчу Беларусаў Чыкага з прадстаўнікамі Беларускага Консуляту.

Паднімаючы тост, слова ўзяў Сталы прадстаўнік Рэспублікі Беларусь пры Аб'еднаных Нацыях сп. Генадзь Бураўкін. Ён прывітаў прысутных наступнымі словамі: «Такі лёс чалавека, што над галавой неба, а пад нагамі зямля. Чалавек, калі пад нагамі роднай зямлі ня мае — ён не павінен мець у сэрцы. Вось тыя, хто закладаў БАН Раду мелі ў сэрцы беларускую зямельку зь яе жыхарствам, гарадамі, вёскамі, лясамі й палямі. Любоў да Бацькаўшчыны мелі тыя, хто перахаваў пазьней, стаў сябрам і спрычыніўся разьвіцьцю арганізацыі».



*Міхась Каленік адчыняе ўрачыстасьць.*

Старшыня Беларуска-Амэрыканскай Нацыянальнай Рады сп. Міхась Каленік афіцыйна адчыніў сьвяткаваньне, адыграў Амэрыканскі нацыянальны гімн і, пасьля ўступнага слова, вядзеньне сьвяточнай праграмы перадаў свайму заступніку М. Латушкіну.


*На прыняцьці: Генадзь і Юля Бураўкіны і а. Ільчук з матушкай Ірэнай.*

М. Латушкін прывітаў прысутных па-ангельску і ў беларускай мове: «Сяньняшні дзень зьяўляецца днём гордасьці для кожнага Беларуса, які жыве ў Чыкага, ці ў штаце Ілліной, ды для ўсіх тых што жывуць у іншых штатах ЗША, ці ў іншых краінах сьвету, ці ў дарагой нам Бацькаўшчыне».

Прывітаньне ад Губэрнатару Штату Ілліной, дастойнага Джыма Эдгара, зачытаў Пётра Каленік. Некалькі прывітаньняў было атрымана ад паасобных беларусаў і ад арганізацыяў.

Кіраўнік праграмы прывітаў шаноўных гасьцей і запрасіў сп. Міхася Белямука прачытаць рэфэрат на тэму ўрачыстасьці.

М. Латушкін, як былы старшыня Рады ў гадох 1958-1968, зазначыў, што «мы абавязаныя сёньня схіліць галовы у знак удзячнасьці і ўшанаваньня памяці нашых супрацоўнікаў у Радзе: сьв. памяці Васіля Пунтуса, у кватэры якога даўгі час была канцылярыя Рады, сьв. пам. Косьці й Тані Новіка, Глеба Калтаноўскага, Макара Аблажэя, Міхася Шастоўскага, Аляксандра Пашкевіча, Івана Багдановіча, Мікалая Новіка, Івана Наумовіча, Сымона Селязьнёва, др. Мікалая Мінкевіча, Марыю і Івана Шпакоўскага і Паўла Цьвірка. Мы памятаем сёньня і пэнсыяэраў, якія ня здолелі прыбыць на сьвяткаваньне».

сакратар. Арганізацыя была зацьверджаная ў штаце Ілліной. Дзейнасьць праводзілася рознымі шляхамі. Айцец Янка Тарасэвіч штотыдня на паўгадзіны прамаўляў па радыё аб беларускіх справах, беларускай культуры і беларускіх праблемах, заклікаючы да гурту вакол БАН Рады. Гутаркі праводзіў на трох мовах: па-беларуску, парасейску і па-ангельску. Апрача гэтага праводзілася іншая прапагандовая праца: пісалі ў газэты, у Энцыкляпэдыю Брытаніка, якая зьмясьціла артыкул пра Беларусь з картай. Рада пісала і ў Вашынгтон прэзыдэнту Рузвэльту ды розным сэнатарам і кангрэсмэнам у справе Беларусі і яе межах, асабліва калі камуністы аддалі Вільню Літве, а Беласток Польшчы ў 1945 годзе. Пісалі аб гэтым і ангельскаму амбасадару і ангельскаму міністру замежных справаў Ідэну у часе ягонага пабыту ў Вашынгтоне. Пісалі ў Парыж, баронячы перад вялікімі мужамі межы і справы беларускія. Дзейнасьць Рады была ведамая й нямецкім палітыкам».

Паўторна кіраўнікам урачыстасьці быў запрошаны амбасадар Генадзь Бураўкін расказаць пра цяперашні стан палітычна-эканамічнага жыцьця на Беларусі і пачуць ягоныя прагнозы на будучыню. Амбасадар расказаў пра апошнія навіны з Бацькаўшчыны і


*Беларуская Праваслаўная Царква Сьв. Юрыя ў Чыкага. Фота А. Макарэвіча*

З прывітаньнямі выступалі сп. Міхась Сенька, Віталі Цярпіцкі, Аўген Лецка, госьць із Менску, старшыня таварыства «Бацькаўшчына»; Сяргей Мурог, сакратар Народнага Фронту, які расказаў пра апошнія падзеі на Беларусі; сп-ня Вацлава Вярбоўская, якая паведаміла пра акцыю дапамогі «Дзецям Чарнобыля»; др. Язэп Сажыч, старшыня Рады БНР на эміграцыі; сп. Міхась Махнач, старшыня Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага.

Чаргова вітаў Юбіляра рэдактар часопісу «Наш Сьвет» сп. Мікола Прускі. На яго прывітаньні мы дазволім сабе затрымацца, падаючы некаторыя вытрымкі:

«У 1941 годзе Асоўскі, едучы у Швэцыю (праз Нарвэгію) атрымаў адрасы Янкі Чарапука і а. Я. Рэшаца ў Чыкага ад кс. Гадлеўскага і даручэньне пераслаць туды заклік арганізаваць беларусаў Чыкага ды пачаць дзейнічаць перад Вашынгтонам і Аліянтамі ў справе Беларусі. Атрымаўшы гэтыя лісты Я. Чарапук і Я. Рэшаць з а. Я. Тарасэвічам заактывізавалі яшчэ да гэтай справы сп.сп. І. Лабача, М. Аблажэя, Я. Варонку і П. Чопку. Такім парадкам у памешканьні І. Лабача была заснаваная 7-га верасьня 1941 году Беларуска-Амэрыканская Нацыянальная Рада. У склад ейнага Ураду увайшлі: а. Ян Тарасюўіч — старшыня, Янка Чарапук — заступнік, І. Лабач —

адказваў на розныя заданыя яму пытаньні.

Сп. Адяксандар Шышко, старшыня Царкоўнай Управы, зьвярнуўся да прадстаўнікоў Беларускай амбасады з просьбай падзейнічаць на заканадаўчыя інстытуцыі Рэспубблікі Беларусь, каб тыя упрасьцілі цяперашнія правілы ў афармленьні дакумэнтаў на атрымваньне візаў для наведваньня Беларусі. Вольны паток турыстаў, бясспрэчна, паслужыць аблягчэньню цяперашняй, там нялёгкай эканамічнай сытуацыі.

Сьвяткаваньне Юбілею прайшло на высокім узроўні. Кіраўнік сьвяткавальнай праграмы у сваім заключным слове падзякаваў гасьцём і прысутным сябром, ды прапанаваў усім разам прасьпяваць Беларускі Нацыянальны Гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

Па афіцыйнай частцы распачаліся танцы.

Прабег сьвяткаваньня быў запісаны на відэо істужку, якую можна замовіць у Юркі Каленіка. Пісаць на адрас:

1500 North, Maplewood Ave., Chicago, Ill. 60622.

**Мікола Латушкін**

# ПАЛОМНІЦТВА ДА БЕЛАРУСКАГА КРЫЖА



Чарговае — чацьвертае — паломніцтва да БЕЛАРУСКАГА КРЫЖА «які мы паставілі» — у 1988 г. — «на ўспамін аб ласцы веры сьвятой, дадзенай нашаму беларускаму народу тысяча гадоў таму назад» у прошчы паўночна-амэрыканскіх мучанікаў, што завецца Martyrs' Shrine, а знаходзіцца ў Мідляндзе ў Канадзе, сёлета адбылося ў суботу 20 чэрвеня.

Урачыстасьці пачаліся ў 10:30 зранку Сьв. Імшой, якую адправіў у касьцёле прошчы а. М. Кутс. Ён прывітаў беларускае паломніцтва, і ў літургіі спэцыяльнай малітвай прасіў Божае ласкі для Беларусі й яе народу, што змагаецца за адбудову свае Бацькаўшчыны, ды за Канаду, якой сёлета споўнілася 125 год.

Пасьля імшы працэсія паломнікаў, ачоленая маладым Джэймс Кэлі, накіравалася да Беларускага Крыжа. Гімнам працэсіі была Люрдаская песьня, — Immaculate Mary.

Беларускі тэкст, нідзе дагэтуль не апублікаваны — гэта цудоўная бальляда ў апрацаваньні Натальлі Арсеньневай:

«Над сьпелым калосьсем сьпяваюць званы,
аб дзіве дзіўнейшым скрозь весьцяць яны,
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Ледзь сонца ўзьнялося над сеткай палёў,
пайшла Бэрнардэтка у лес па гальлё,
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Аж раптам гарачы, нястрымны віхор
ад скал Масабельскіх нізрынуў на бор,
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Нясьцерпнае зьзяньне шугнула да хмар
і папараць-кветкай успыхнуў гушчар,
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Сьхіліліся нізка да сьцерпнай зямлі
і ніцыя зёлы й дубы-каралі,
авэ, авэ, авэ, Марыя
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Замерла дзяўчына, прыйльгнула да пня,
ня сьмее павекі у зьзяньне ўзьняць,
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Нарэшце зірнула — за зоры сьвятлей,
праменная Дзева стаіць на скале,
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Кашуля, як сьнег той, як неба паяс,
абліча, як вёсны ціхія ў нас,
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Зярняты ражанцу зіхцяць на руках
і белыя ружы ўсталі ёй шлях...
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Сьхінула калені ў пакоры дзіця,
трымціць, як над плёсам сьцяблінка трысьця,
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

І вуснамі ссохшымі шэпча бы ў сьне:
«О, будзь міласьцівай да нас, да мяне!»
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Ды зьгінула Зьява... Сацьмела скала...
Чакала малая, шукала й пайшла,
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай Марыя.

Назаўтра, ледзь ранак усплыў над зямлёй,
ня сьпіць Бэрнардэтка, ірвецца ў гальлё,
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Туды, дзе ўчора, між скалаў, адна,
Чароўную Постаць вітала яна,
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

«Дазволь мне матуля, ісьці да Яе,
мне радасьць дзіўная чакаць не дае»!
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя

І лёгкаю птушкай памкнула ў туман.
І зноўкі ёй Дзева зьявілася там,
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Маяы.

«Што хочаш? Скажы» — моліць Дзеву дзіця,
«Твая-ж я ўся, пакуль стане жыцьця»,
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

«Прыходзь да мяне, і сяброўкі бяры,
два тыдні із вамі я буду ў бары»,
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

«Табе-ж прыракаю я, любка мая,
ціхое жыцьцё й нябёсы пасьля»,
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя.

Так сталася й дзеці паверылі Ёй,
Ды цяжка даць рады няверы людзкой...
авэ, авэ, авэ, Марыя,
вітай, вітай, вітай, Марыя!

Працэсія паломнікаў узыходзіла на ўзгорак да Крыжа ля якога на ветры ўзьвіваліся, бел-чырвона-белы беларускі й з кляновым лістком канадыйскі, сьцягі.

Акафістам Найсьвяцейшай Багародзіцы (у перакладзе на беларускую мову айца Аляксандра Надсона) прадаўжалася пахвала Божай Маці:

«Магутная Ўладарка Багародзіца, мы, верныя слугі Твае, выбаўленыя Табою ад бедаў, песьні ўдзячнасьці і перамогі Табе прыносім. Ты ж, маючы сілу непераможную, ад усякіх напасьцяў выратуй нас, і наш Беларускі Народ, каб нам усклікнуць: «Радуйся, Дзева Маці»!

Пасьля Акафісту, Раіса Жук-Грышкевіч, сьпеўнай інтанацыяй выканала вытрымкі зь яго, прачытала й «Малітву пабожную да Найсьвяцейшай Багародзіцы Марыі пасьля Акафісту» з Малой Падарожнай Кніжкі Францішка Скарыны (1522).

Багаславенствам айца Кутс і гімнам «Магутны Божа» закончыліся ўрачыстасьці каля БЕЛАРУСКАГА ПАМЯТНАГА КРЫЖА.

Дзеля халоднага падвор'я полудзеньпікнік адбыўся ў «пакоі людзей». За даўгім сталом застаўленым ежай прыгатаванай спадарынямі: Бэрнардэтай Мэрдак, Маргарэт Кэлі й аўтаркай гэтых радкоў, селі паломнікі. Сярод іх: Джым Кэлі, які перад полуднем сказаў малітву, Рагнеда Грышкевіч-Аляхновіч зь Менску, спадарства Ніна й Язэп Чорныя з Таронта, Марыя й Мікола Каладзейскія з пад Алістану, Ірэна й Віктар Касьцюкевічы з канадыйскага Слуцку, Валя Мікуліч-Семашко з Бэры, Багуслава й Гэнрык Барановічы са Слуцку, вышэй успомненыя спадарыні з Бэры, Джым Кэлі малодшы з Таронта. Прысутныя вырашылі выслаць падпісаныя ўсімі прывітальныя паштоўкі нашага Крыжа тым, што былі на высьвячэньні Крыжа й усіх дагэтулішніх пілігрымках, а якім гэтым разам фізычныя недамаганьні не дазволілі далучыцца да паломніцтва. А гэта: паэтцы Натальлі Арсеньневай, і спадаром — Морыс Мэрдаку й Джыму старэйшаму Кэлі.

Арганізатары паломніцтва дзякуюць айцу Майкал Кутс і Джэмс Кэлі за багаслужбу, спадарыням Бэрнардэце Мэрдок і Маргарэт Кэлі за арганізацыю полудня й усім паломнікам за прысутнасьць і малітвы. Дай жа Божа за год даждаці!

**Раіса Жук-Грышкевіч.**

# ТВОРЧЫ ВЕЧАР ГЕНАДЗЯ БУРАЎКІНА Ў ФУНДАЦЫІ КРЭЧЭЎСКАГА.



*Генадзь Бураўкін чытае свае вершы*

Зь ініцыятывы Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі 18 ліпеня ў Нью-Ёрку ў фундацыі Крэчэўскага, культурным цэнтры Беларусаў, адбыўся літаратурны вечар паэта Генадзя Бураўкіна. Генадзь Бураўкін — галава Беларускай місіі пры Аб'еднаных Нацыях. На вечар разам з паэтам прыйшлі прадстаўнікі беларускай місіі ў Нью-Ёрку, а таксама галава украінскае місіі пры ААН спадар Бацюк. Вечар адчыніў д-р Юрка Кіпель, старшыня АБАМ ды прадставіў аудыторыі Генадзя Бураўкіна. Затым, Ю. Кіпель запрасіў сп-ра Масея Сяднёва азнаёміць прысутных з паэзіяй дакладчыка. У сваім уступным слов спадар сяднёў спыніўся на мамэнтах, як ён сказаў, чалавечага ў творчасьці Генадзя Бураўкіна ды на жыцьцёвым шляху паэта. Уводнае слова Масея Сяднёва было ўпрыгожанае радкамі зь вершаў Бураўкіна.

Кожны свой верш, які чытаў на сустрэчы з Беларусамі Генадзь Бураўкін, а іх было прачытана даволі шмат, аўдыторыя ўзнагароджвала цёплымі апладысмэнтамі. Спадар Бураўкін чытаў вершы як тыя, што ўвайшлі ў зборнікі паэта гэтак і новыя творы, ды таксама вершы, якія хоць і напісаныя даўно, пераважна ў застойныя часы, але якія і дагэтуль яшчэ нідзе не друкаваныя. Размаўляючы зь некаторымі актыўнымі членамі Арганізацыі Беларускай Моладзі, я быў прыемна зьдзіўлены, што маладыя Беларусы, людзі, якія нарадзіліся ужо ў Амэрыцы, выдатна зразумелі тыя вершы паэта, якія былі напісаныя ў гады застою, зразумелі іхны падтэкст. Вялікім попытам, калі можна так сказаць, на літаратурным вечары Бураўкіна ў аўдыторыі карысталіся лірычныя вершы паэта. Спадару Бураўкіну давялося нават па заяўкам чытаць сваю лірыку.

Галава ўкраінскае місіі пры ААН Віктар Бацюк, дарэчы, таксама паэт, сказаў на вечары пра Бураўкіна, як пра паэта, гэтак і палітыка. Прыемным мамэнтам ў выступленьні Спадара Бацюка было тое, што як прызнаўся, ён ўпяршыню гаварыў па-беларуску перад Беларусамі. Па тым, як Генадзь Бураўкін закончыў чытаць вершы, яму былі пастаўленыя колькі пытаньняў, у тым ліку, людзей цікавілі ягоныя ўзаемадачыненьні з кампазытарамі. Ведама, што на вершы паэта былі створаныя больш за паўсотні песьняў.

На ўсе пытаньні, а іх было цімала, паэт Генадзь Бураўкін даў вычарпальныя адказы.

**А. А.**

## НАВУКОВАЯ ЗБОРКА Ў БІНІМЕ

27-га чэрвеня ў Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва адбылася навуковая зборка, на якой д-р Ян Запруднік прачытаў даклад «Сучасны палітычны стан у рэспубліцы Беларусь». У часе дыскусіі дакладчык пазнаёміў прысутных са зьместам ягонае, нядаўна закончанае працы Сучасная Беларусь — якая ў наступным годзе выйдзе кнігай ў амэрыканскім выдавецтве.

## УЦЕЧКА МАЗГОЎ: 10% ЗА ГОД

У выніку эканамічных цяжкасьцяў, у паасобку цяжкасьцяў, у якіх апынулася навука — нястача грашовых фондаў — вучоныя шукаюць або больш прыбытковых заняткаў вонках навукі, або выяжджаюць за межы Беларусі. Працэс гэты характарызуецца як нутраная і вонкавая ўцечка мазгоў.

Радыяпраграма «Панарама» (10.VI.92) падала выказваньне новага прэзыдэнта Адкадэміі Навук Беларусі Леаніда Сушчэні, які сказаў, што ў выніку нутранае і вонкавае ўцечкі мазгоў АН Беларусі страціла за мінулы год блізу 1500 чалавек. «Гэтая калясальная страта, недзе дзесяць працэнтаў за год», сказаў акадэмік Сушчэня.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТУ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА

| | |
|---|---|
| Др. Ала Рамана | ам. дал. 2,000.00 |
| Фонд Адраджэньньня Беларусі | ам. дал. 1,150.00 |
| Беларуска-Амэрыканскі Грамадзкі Цэнтр у г. Саўт Рывэры праз Ж. Наумчыка | 500.00 |
| Згуртаваньне Беларусаў Вялікабрытаніі праз Я. Міхалюка | ам. дал. 190.00 |
| А. Сільвановіч (трэйці раз) | 50.00 |
| Я. Азарка | 20.00 |
| М. Абрамчык | 20.00 |
| Я. Калбаса | 9.00 |
| М. Віценчык | 9.00 |
| Я. Юхнавец | 20.00 |
| Разам | 1.968.00 |

# МІТРАПАЛІТ БАПЦ МІКАЛАЙ У БЕЛАРУСІ

**(Заканчэньне. Пачатак гл. у № 389-391**

**У Старшыні Вярхоўнага Савету/ Парлямэнту Беларусі**

У гадз. 3-яй 2-га сакавіка папаўдні прыняў нас Старшыня Парлямэнту (Савету) Беларусі сп. Станіслаў Шушкевіч у Доме Ўраду Рэспублікі. Сп. Шушкевіч цікавіўся жыцьцём беларускай эміграцыі ў Злучаных Штатах Амэрыкі. Мы прасілі Сп. Шушкевіча палягчыць фармальнасьці ў атрыманьні візаў для паездак на Беларусь і ён сьцьвердзіў, што гэта ўжо робіцца праз адкрыцьцё новых консулятаў Беларусі ў Злучаных Штатах Амэрыкі й Канадзе. Мы таксама зьвярнулі ўвагу Сп. Шушкевіча на тое, што было-б вельмі пажаданым павялічыць абмен выкладчыкаў і студэнтаў між Беларусьсю й краінамі Паўночнай Амэрыкі.

**НАВЕДВАНЬНІ ЎСТАНОВАЎ КУЛЬТУРНАГА, МАСТАЦКАГА Й НАВУКОВАГА ХАРАКТАРУ**

**Музэй В. К. Бялыніцкага-Бірулі.**

У чацьвер вечарам, дня 27-га лютага, пасьля зьведваньня Магілёва, мы паехалі на канцэрт камернага хору «Мадрыгал», які меў месца ў Магілёўскім Мастацкім Музэі В. К. Бялыніцкага-Бірулі. Дырэктарам Музэю ёсьць Натальля Статуева. Канцэрт і агляд музэю былі прыемным заканчэньнем гэтага параўнальна цяжкога дня. Музэй мае некалькі сот экспанатаў, уключаючы каля сотні абразоў Бялыніцкага-Бірулі. Бялыніцкі-Біруля, ведамы беларускі імпрэсыяніст, адлюстраваў у сваіх абразох прыгожасьць беларускіх краявідаў. Візыта ў музэй закончылася пачастункам ды гутаркамі з суаўчыньнікамі.

**Вечар літаратуры й мастацтва.**

На наступны дзень, выехаўшы з Магілёва, мы сьпяшылі ў Менск на вечар ЛІМ-у. Мы спазьніліся, але пасьпелі. На просьбу кіраўнікоў урачыстасьці, Мітрапаліт БАПЦ Мікалай прывітаў прысутных ды адзначыў вялікую ролю гэтай інстытуцыі ў жыцьці народу. Вечар быў добрай нагодай для нас пазнаёміцца з беларускімі пісьменьнікамі й мастакамі; шмат з іх мы ведалі па іх творах, а з некаторымі мы пазнаёміліся тут.



*Каля Барысавага Камня*

**Камплекс «Гарыслава», Заслаўе**

Мы ўжо раней пісалі пра нашае падарожжа ў Заслаў'е ды наведаньне Спаса-Прэабражэнскай Царквы. Спадарства Віктар Маркавец і Тацьцяна Гаранская, якія тут жывуць, хочуць стварыць тут культурна-гаспадарчы цэнтар, які ўключыць ў сабе галярэю й гатэль ды прыцягне турыстаў. Бяручы пад увагу, факт, што Заслаў'е ёсьць гістарычна-царкоўным помнікам ды ляжыць у адным з прыгажэйшых мясьцін Беларусі, плян такі ёсьць абяцаючым. Ажыцьцяўленьне яго можа прынесьці гаспадарчую карысьць цэламу раёну ды паасобным укладчыкам.

**Дзяржаўны Мастацкі Музэй Беларусі**

2-га сакавіка мы наведалі Дзяржаўны Мастацкі Музэй Беларусі. Музэй мае багатыя зборы беларускіх мастакоў як дарэвалюцыйных, так і навейшых ды пасьляваенных. Шмат абразоў было зрабавана ў вайну, ня ўсё знойдзена.

Спаткаў нас дырэктар Музэю сп. Юры А. Карачун, ды прадставіў прысутным. Тут былі беларускія мастакі, пісьменьнікі, майстры іншых галінаў мастацкага жыцьця Менску.

У гэтым часе паказвалася тут выстаўка абразоў Галіны Русак, беларускай мастачкі са Злучаных Штатаў Амэрыкі. Для выстаўкі была адведзена асобная заля. У гэтай простакутнай залі з высокімі, на бела памаляванымі сьценамі, выстаўка прэзэнтуецца вельмі добра. Выстаўка папулярная у Менску, ды ёсьць пляны паказаць яе ў іншых гарадах Беларусі.

Вечарам гэтага-ж дня мы паехалі ў Дом Максіма Багданоіча, які ёсьць філіялам Музэю Багдановіча. 3-га сакавіка, калі мы наведвалі Дом Культуры, др. Адам Мальдзіс падараваў Уладыку Мікалаю дзьве першыя кнігі Бібліі Скарыны. Трэбцяя кніга Бібліі — у друку.

У чацьвер, 5-га сакавіка Ўладыка Мікалай быў запрошаны ў тэлевізыйную студыю даць інтэрвію на тэму «Вялікдзень на Эміграцыі». Уладыка выкарыстаў гэтую нагоду, каб зьвярнуцца да беларускага народу ды ўпэўніць яго, што Ўваскрошшы Хрыстос нас не забыў ды дапаможа нам на нашым шляху ў будучыню.

**Спатканьні Адукацыйнага Характару**

Мы былі запрошаны спаткацца 5-га сакавіка са студэнтамі а гадзіне 3-яй папаўдні. Здарылася аднак так, што сп. Ганько спаткаўся раней з групай людзей зацікаўленых у адміністрацыі прадпрыемстваў, а мяне запрасілі на спатканьне з адміністратарамі і выкладчыкамі Акадэміі Навук Беларусі. Я коратка паінфармую тут аб маім спатканьні. Той факт, што мне прышлося пабыць пасьля вайны ў некалькіх інжынерных школах у Эўропе й ЗША, даваў мне магчымасьць рабіць параўнаньні між рознымі сыстэмамі навучаньня. Мы гутарылі таксама аб такіх справах як стандартызацыя ў канструкцыі машын. Бяручы пад увагу вялікі кошт адукацыі, мы гутарылі аб спосабах яе ўскарэньня, палепшаньня але й падзешаўленьня. Я паабяцаў дастаць каталёгі праграмаў амэрыканскіх інжынерных школаў для параўнаньня з праграмамі школаў Беларусі, і мушу іх выслаць. Мне паказалі бібліятэку й лябараторыі Інстытуту. У адной з лябараторыяў, я заўважыў далікатна пазалочаныя шкляныя вырабы. Мне выясьнілі, што пазалота накладаецца электронным спосабам. Мне падаравалі адзін кубак, ды адразу паўстала пытаньне, ці такія рэчы можна было-б экспартаваць. (І між іншым, калі мая жонка пайшла пазьней тут ў магазын, там зацікавілася прадуктам, але адразу паставілі шэраг умоваў для гандлю). Мне прыемна было спаткаць сябру Акадэміі Аляксея Бураўкіна — сына нашага Амбасадара пры Аб'еднаных Нацыях сп. Генадзія Бураўкіна.

Спатканьне са студэнтамі прыняло форму пытаньняў і адказаў. Студэнты ставілі пытаньні, а мы адказвалі. Найбольш пытаньняў кранала царкоўна-рэлігійную тэму на вялікае задаваленьне Ўладыкі Мікалая.

Адсюль мы паехалі на мастацкую пастаноўку ансамблю «Неруш». Гэта студэнцкі ансамбль. У яго праграме былі танцы, жарты й сьпевы. Сп. Бураўкін ёсьць таксама сябрам ансамблю.

**Разьвітаньне й Ад'езд**

У панядзелак, 9-га сакавіка, ня глядзячы, што гэта быў наш перад-апошні дзень у Менску, мы былі вельмі занятыя цэлы дзень. А 10-ай гадз. вечара, калі мы вярнуліся з разьвітальнай візыты ад Мітрапаліта Менску й усяе Беларусі Філарэта, дык мы засталі ў нашай кватэры шмат з нашых прыяцеляў, сярод іх: сп. сп. Зянона Пазьняка, сп-ню Валю Трыгубовіч, В. Голубева, У. Хадыку ды шмат іншых. Раніцою, 1-га сакавіка мы былі на лётнішчы. Тут нас праводзілі а. Юры Латушка сп-ня В. Трыгубовіч і сп. В. Голубеў.

**В. Русак**

## ДЗІЦЯЧЫ ЛЯГЕР «ПАГОНЯ»




*Дзеці і кіраўнікі лягеру «Пагоня»*

Ад 26-га да 31-га ліпеня сёлета Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі наладзіла дзіцячы лягер у адпачынковым селішчы «Бэлэр-Менск» у штаце Нью-Ёрк.

На адчыненьні лягеру «Пагоня» дзецям было растлумачана значаньне гэтага назову.

На працягу тыдня лягернікі цікава праводзілі час у розных культурных і спартовых занятках. Яны навучыліся колькі беларускіх словаў і фразаў, пісаць свае імя па-беларуску, сьпяваць беларускія песьні ды танцаваць «Лявоніху». Сяржук Сокалаў-Воюш меў зь дзецьмі гутарку, ў форме пытаньняў і адказаў, аб жыцьці ў Беларусі. Пры штодзённым падняцьці сьцягу дзеці мелі нагоду пазнаёміцца са значаньнем і сымболікай беларускага сьцягу.

Спартовыя гульні і спаборніцтвы ўключалі: плаваньне, футбол (сокэр), валейбол гімнастыку. Дзеці займаліся й ручнымі працамі, лавілі рыбу, хадзілі на экскурсіі.

Лягер закончыўся супольным вогнішчам, на якім лягернікі танцавалі «Лявоніху», дэклямавалі вершыкі. Кожны атрымаў дыплём удзельніка лягеру.

Шмат для каго зь дзяцей гэта было першае знаёмства зь лягерным жыцьцём і таму было прыемна пачуць іхную рэакцыю на гэты беларускі лягер. Як дзеці, гэтак і іхныя бацькі выказалі вялікае жаданьне, каб гэткія лягеры прадаўжаліся.

Кіравалі лягерам сябры АБАМ: Коля й Галіна Бахар, Вера Запруднік, Дарота Рыжы, Аня Бартуль-Сокалаў ды Юрка й Лёрэйн Кіпель.

Арганізатары лягеру «Пагоня» хочуць тут падзякаваць усім асобам, удзел якіх забясьпечыў посьпех лягеру. Асаблівая падзяка належыць управе селішча «Бэлэр-Менск», ды яе старшыні Сяргею Рагалевічу, за тое, што яны ахвяравалі памешканьні для лягеру на цэлы тыдзень. Мы гэтаксама вельмі ўдзячныя мэнаджэру селішча Джо Крывенька за ягоную ўвагу і падтрымку.

**Арганізатары лягеру «Пагоня»**

## АМЭРЫКАНСКІ МІЛЬЯНЕР І ПІСЬМЕНЬНІК ЗЬ БЕЛАРУСІ

Газэта «Зьвязда» (5 чэрвеня 1992) падала пра наведаньне Беларусі Амэрыканцам Джонам (Іванам) Вішнеўскім, які родам з-пад Слоніма.

«І. Вішнеўскі, — піша газэта, зьмясьціўшы фатаграфію наведніка — ня толькі таленавіты бізнэсмэн, чыя фірма мае штогадовы абарот у 165 мільёнаў даляраў, але і пісьменьнік, даволі вядомы і папулярны ў Амэрыцы. Ніводная з шасьці выпушчаных у Штатах яго кніг на паліцах магазынаў не залежвалася. Тэма — амаль 'па Карнэгі': як максімальна выкарыстаць свае творчыя магчымасьці».

Пра Вішнеўскага «Зьвязда» піша, ён «мяркуе ўкласьці мільярды амэрыканскіх доляраў у беларускую эканоміку».

Паведамленьне гэтае зацікавіла рэдакцыю «Беларуса». Мы паспрабавалі даведацца больш пра сп. Вішнеўскага з каталёгаў кніжных выданьняў. Але гэтаксама аўтара там не знайшлі. Наведаньне вялікае ньюёркска кнігарні, якая мае інфармацыю пра камп'ютэрную інфармацыю пра бягучыя выданьні апошніх гадоў, таксама нічога не выявіла. Будзем далей шукаць інфармацыі пра земляка.

Івонка Сурвілла

# УРАЖАНЬНІ З БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

**(Працяг. Пачатак гл. у но. 390 і 391)**

Французская журналістка Аннэ Помс у артыкуле «Спадчына: купцы у храме» (L'Express, 26.06.1992) расказвае пра спрэчку якая цяпер разгарнулася ў кругох французскай інтэлігэнцыі адносна будучыні архітэктурнай спадчыны Францыі. У спрэчцы гэтай з аднаго боку людзі, што хочуць адбудоўваць помнікі ў іх аргінальнай форме, а з другога — тыя, што жадаюць акуратна зьберагчы іх у такім стане, ў якім яны дайшлі да нашых дзён. Адны гавораць пра попыт, асабліва сярод турыстаў, на адноўленыя гістарычныя помнікі. На іх думку трэба адтварыць вакол адбудаваных помнікаў і жыцьцё мінулых стагодзьдзяў у форме свайго роду тэатру, дзе артысты, адзетыя ў гістарычную вопратку, граюць ролю людзей, што жылі ў часы, калі помнік быў поўны жыцьця. Іншыя ўважаюць, што адбудова гістарычных помнікаў гэта нішто іншае як фальсыфікацыя, якая забівае іхную душу, а разам і душу народу, які іх стварыў.

гі ад замку, маленькія драўляныя хаткі мястэчка Мір. Людзей на дварэ ня бачыла, хаця быў прыгожы сонечны дзень. Ня было таксама ніводнага наведвальніка.

Замак цяпер адбудоўваецца. Адбудова дзьвёх вежаў і муроў замку акуратная і поўнасьцяй наследуе арыгінальную архітэктуру. але, усё-ж нейкае дзіўнае ўражаньне, калі глядзіш на новыя цэглы і дахі паложаныя на старых мурох і вежах: ці ня гвалт гэта над нашай спадчынай? Ці-ж аўтэнтычнасьць ёсьць галоўнай характэрыстыкай гістарычнага помніка?

На гэта пытаньне я фактычна сабе яшчэ не адказала. У прынцыпе яно так. Але-ж нам трэба аберагчы абсалютна ўсё, што яшчэ засталося із спадчыны нашых продкаў. Войны і плянавае нішчэньне храмаў на працягу апошніх сямідзесяці гадоў абярнулі ў руіны бальшыню нашых гістарычных помнікаў. А каб зьберагчы рэштку муроў,



Аднаўленая частка Мірскага Замку. Фота Івонкі Сурвіллы

Я зразумела да якой ступені пытаньне гэтае актуальнае ў Беларусі, калі пабачыла велічныя муры Мірскага Замку. Наведала іх у нядзелю 12-га красавіка. Замак быў мне аддаўна знаёмы. Першы раз рысавала яго паводля малое здымкі, дзесь у пачатку пяцідзесятых гадоў. У апошнія гады бачыла часта на творах беларускіх мастакоў. Моцна хацелася параўнаць уяўленьне з сапраўднасьцяй.

Замак выдаўся мне больш магутным чым на здымках. Зраўнаважаныя прапорцыі робяць вельмі прыемнае ўражаньне, а сьляды стагодзьдзяў на мурох выклікаюць пачуцьцё рэспэкту. За ручайком, што на другім баку даро-

каб не прынялі яны форму кучаў друзу, магчыма й няма іншага выхаду як толькі адбудаваць, вяртаючы ім іхны аргінальны выгляд і, па магчымасьці, атмасфэру, каб яны сьветчылі пра магутнасьць і славу нашых продкаў ды служылі духоваму жыцьцю нашага і будучых пакаленьняў.

Гутарачы ў Менску з заступнікам дырэктара Дзяржаўнага Музэю Мастацтва Пётрам Хацько даведалася, што толькі адна частка Мірскага Замку будзе адбудаваная. Рэшта будзе перахоўвацца ў цяперашнім стане. Школа Рэстаўрацыі Гістарычных Помнікаў, якая знаходзіцца побач Замку займаецца яго адбудовай.

# ДЫПЛЯМАТЫЧНЫ ПРЫЁМ У БЕЛАРУСКАЙ МІСІІ ПРЫ АРГАНІЗАЦЫІ АБ'ЕДНАНЫХ НАЦЫЯЎ



Фота Надзі Кудзавай.

Група беларусаў-амэрыканцаў на прыйме: зьлева Ян Запруднік, Франук Бартуль, Вітаўт Кіпель і Зора Кіпель

27 ліпеня 1990 году Беларускі Парлямэнт прыняў дэклярацыю аб Сувэрэннасьці Рэспублікі. Сёлетняю гадавіну гэтага нацыянальнага сьвята адзначыла Беларуская Місія пры ААН у Нью Ёрку.

На дыплёматычны прыём у Місіі былі запрошаныя дыпляматы з ААН, амэрыканскія бізнісмэны, ды госьці беларусы-эмігранты з прылягчаючых да Нью Ёрку штатаў. Пры ўваходзе віталі гасьцей гаспадары Місіі сп-ва Генадзь і Юля Бураўкіны. Урачастасьць прайшла вельмі памысна у сяброўскай атмасфэры. Прыгожа ўдэкараваныя бел-чырвона-белымі сьцягамі, залі, смачная ежа й напіткі — усё гэта стварала сьвяточны настрой.

# НА КАНФЭРЭНЦЫІ КАНАДЗКІХ СЛАВІСТАЎ



Удзельнікі Канфэрэнцыі: зьлева, Марыя Паўла Сурвілла, Я. Запруднік і Зіна Гімпелевіч. Фота Івонкі Сурвілы

Стараньнямі праф. Зінаіды Гімпелевіч-Шварцман і сп-ні Івонкі Сурвілы была арганізаваная беларуская сэсія на канфэрэнцыі Канадзкае Асацыяцыі Славістаў. Канфэрэнцыя адбылася 1-3 чэрвеня на абтоку (правінцыя) Прынца Эдварда ў гор. Шалрлётаўне, як частка праграмы 62-га гадавога кангрэсу навуковых таварыстваў Канады.

Старшыня на беларускай сэсіі др. З. Гімпелевіч-Шварцман, калішняя мянчанка, якая скончыла ў 1971 г. Беларускі Пэдагагічны Інстытут, а ад 1979 г. жыве ў Канадзе, выкладае расейскую мову й літаратуру на ўнівэрсытэце гор. Ватэрлё. Сярод ейных навуковых працаў галоўна пра творчасьць расейскіх пісьменьнікаў Б. Пастэрнака й Булгакава, ёсьць і беларусіка («Ул. Караткевіч і беларускі рэнэсанс» і інш.). На канфэрэнцыі праф. Гімпелевіч-Шварцаман чытала даклад на тэму «Мэнтальная хвароба ў рамане Булгакава "Майстар і Маргарыта"».

На беларускай сэсіі былі прачытаныя тры даклады: др. Янкі Запрудніка зь ньюёркаўскага Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва на тэму «Беларусь на шляху да сувэрэннасьці»; праф. Квінскага каледжу ў Нью-Ёрку Томаса Бэрда — «Рэлігійны аспэкт росту беларускай сьведамасьці»; і дактаранткі Мічыганскага Ўнівэрсытэту Марыі-Паўлі Сурвілы — «Беларусачка: характар жаноцкага вобразу ў беларускім песенным фальклёры». Сп-ня М-П. Сурвіла — таленавітая дасьледніца беларускага музычнага песеннамузычнага мастацтва. Яна выкладала ў мінулым акадэмічным годзе этнамузыкалёгію на унівэрсытэтце штату Паўночная Караліна. Тэма ейнай доктарскай дысэртацыі: адлюстраваньне чарнобыльскай катастрофы ў беларускім песенна-музычным мастацтве.

Прысутны

# ЖОНКА БЫЛОГА ПРЭЗЫДЭНТА КІТАЙСКАЙ РЭСПУБЛІКІ ПРЫЙМАЕ Ў СЯБЕ МЭРА МЕНСКУ

У 1935 годзе мянчанка Фаіна Вагалева выйшла замуж за сына гензралісімуса Чан Кай-шы, зь якім выехала ў 1937 годзе ў Кітай і больш ніколі не наведвала радзімы. Ейны муж, Чан Чын-кўо, стаўся прэзыдэнтам Тайваню ў 1978 годзе і займаў гэтае становішча да свае сьмерці ў 1988 годзе. Па сьмерці мужа жонка ягоная жыла ў Тайпэі, адмаўляючыся сустракацца са шмат якімі наведнікамі, што прыяжджалі ў Тайпэй з Расеі. Выключэньне 76-гадовая сп-ня Чан зрабіла для дэлегацыі зь Менску на чале з мэрам гораду сп. Аляксандрам Герасіменкам. У часе 30-хвіліннай сустрэчы сп. Герасіменка перадаў сп-ні Чан беларускі нацыянальны сьцяжок. Газэта Free China Journal (16.VI), падаючы на першай старонцы пра сустрэчу, зьмясьціла фатаграфію — мамэнт перадачы сп-ні Чан бел-чырвона-белага сьцяжка.

Мэтай наведаньня беларускай дэлегацыяй Тайваню было падтрыманьне справы турызму і наладжаньне пабрацімскіх сувязяў паміж сталіцамі Беларусі і Тайваню.

# ЧАРНОБЫЛЬСКАЯ ДАПАМОГА ЗЬ ЛЁНДАНУ

Паводля бюлетэню № 4 (сакавік 1992) лёнданскага Беларускага Камітэту Дапамогі ахвярам чарнобыльскае радыяцыі ў Беларусі (старшыня Камітэту а. Аляксандар Надсон), летась на дапамогу чарнобыльцам было выдаткавана галоўна на закуп мэдыкамэнтаў, больш за 22 тысячы ангельскіх фунтаў. Сёлета а. Надсон ужо шосты раз наведаў Беларусь у справах дапамогі ахвярам радыяцыі. У сваім бюлетэні а. Надсон піша пра рост захворваньняў ад чарнобыльскай радыяцыі і пра патрэбу далейшае дапамогі. Апрача мэдыкамэнтаў, патрабуюцца шпрыцы, катэтэры, хірургічныя рукавіцы, мультавітаміны, кансэрваваная дзіцячая яда. Ахвяраваньні ў фонд дапамогі просіцца слаць на адрас: BELARUSIAN RADIATION RELIEF APPEAL, Marian House, Holden Avenue, London N12 8HY, England. Nel.: 081-455-5358.

Чэк выпісваць на: Byelorussian Mission Trust (Radiation Relief)




*5 травеня 1992 году ў залі магістрату гораду Бэры ( ў Антарыё) адбыўся, шматкультурны вечар-фэстываль, у якім бралі ўдзел і беларусы. На здымцы: Беларускі аддзел з арганізатарам яго, старшынёй ККБК др. Раісай Жук-Грышкевіч. Вечар арганізаваны быў з нагоды* **"CANADA 125".**

## АГУЛЬНАЯ АСАМБЛЕЯ КАНАДЗКАЙ ЭТНАКУЛЬТУРНАЙ РАДЫ

Канадзкая Этнакультурная Рада (КЭР) гэта кааліцыя агульнаканадзкіх этнакультурных арганізацыяў, якая працуе ў напрамку ўвядзеньня ў жыцьцё палітыкі шматкультуралізму, інакш кажычы стаіць у вабароне правоў меншасьцяў Канады. Гэта паважная арганізацыя, зь ёю лічыцца ўрад і часткова яе субсыдуе. Заснавана яна была ў 1980 годзе з 37-мі агульнаканадзкіх арганізацыяў, якія у сваю чаргу рэпрэзэнтуюць больш за 2000 арганізацыяў па ўсёй Канадзе. Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады ёсьць сябрам Канадзкай Этнакультурнай Рады ад пачатку яе заснаваньня.

6-8 чырвеня сёлета адбылася ў Атаве Двухгадовая Агульная Асамблея КЭР. Дэлегатамі ад Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады былі: старшыня ККБК др. Р. Жук-Грышкевіч і сп. Янка Сурвіла, сябра ЗБК.

Галоўнымі мэтамі Агульнай Асамблеі КЭР было: 1. Перагляд працы КЭР за папярэднія два гады, 2. Устанаўленьне праграмы й пляну працы на наступныя два гады, 3. Выбары новага Выканаўчага Камітэту на наступную кадэнцыю, і 4. Спатканьне з прадстаўнікамі трох канадыйскіх партыяў, каб прадыскутаваць зь імі бягучыя праблемы.

На кіраўніка новага Выканаўчага Камітэту Канадзкай Этнакультурнай Рады быў выбраны старшыня Украінскага Канадыйскага Кангрэсу др. Дмытро Ціпувнык з правінцыі Саскачэван.

Апрача гадавых Агульных Асамблеяў два разы ў год адбываюцца паседжаньні Рады Дырэктароў, якая складаецца з старшыняў паасобных сяброўарганізацыяў КЭР.

Вельмі важным ёсьць для нас факт прысутнасьці ў КЭР беларускай арганізацыі — ККБК.

**Р. Жук-Грышкевіч.**

## ШМАТКУЛЬТУРАЛІЗМ У СІМКО КАЎНТЫ.

125 год таму назад Парлямэнт Англіі зацьвердзіў Брытыйскі Паўночна-Амэрыканскі Акт, што тварыў канстытуцыйную аснову для фэдэрацыі правінцыяў Канады, 1-га ліпеня 1867 фэдэральная вунія правінцыяў Канады сталася dakananым фактам у форме незалежнага Дамініёну Канады.

Сёлета Канада ўрачыста сьвяткуе 25 год свайго існаваньня. З гэтай нагоды кіраўніцтва Музэю Сімко Каўнты арганізавала 4-5 ліпеня фэстываль на тэму «Шматкультуралізм у Сімко Каўнты», (каля 15-х км. на поўнач ад гораду Бэры), у якім ўзялі ўдзел розныя этнічныя групы: брытыйцы, японцы, кітайцы, угандыйцы, грэкі, эстонцы, украінцы й беларусы. Іх павільёны, размешчаныя на тэрыторыі музэю, дапаўнялі-узбагачалі культурную спадчыну Сімко Каўнты.

Беларускі павільён, які арганізавала кіраўніцтва Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады, знаходзіўся ў добра асьветленай франтовай частцы музэю. Вялікая **ПАГОНЯ** з датамі 980 — 1980 (у выкананьні Івонкі Сурвілы), напіс — **BELARUS**, бел-чырвона-белы сьцяг і карта Беларусі (выданая на 60-я ўгодкі БНР Старшынём Рады БНР, др. В. Жук-Грышкевічам) абвяшчалі, што гэта беларускі павільён.

На фоне народнага мастацтва: тканіна, калярытных беларускіх дываноў, ды абрусоў, што пакрывалі пяць выставачных сталоў, вышывак выдатных майстрыняў: сп-рынь Ірэны Пануцэвіч, Людовікі Бяленіс, і Юлі Андрусышын, лялек з ільну, інкрустацыі саломкай на дрэве, — выстаўка мела заданьне гаварыць аб гісторыі Беларусі і яе культурнай спадчыне.

— Дык, БЕЛАРУСЬ старэйшая за Канаду! — гаворыць наведвальнік.

— Але, старэйшая! у 1980-м годзе мы сьвяткавалі тысячагодзьдзе гісторыі Беларусі!

Паказваючы партрэт др. Францішка Скарыны на плякаце, выданым Публічнай Бібліятэкай Нью Ёрку з нагоды выстаўкі «450 Гадоў Беларускага Кнігадрукаваньня», і рэпрадукцыі бачын і гравюраў із Скарынавай Бібліі ў кнізе «Гравюры Францыска Скарыны», гавару аб пачатках беларускага друку, і ўсяе ўсходняе Эўропы, 475 год таму назад.

— А скуль паходзіў др. Ф. Скарына?

А вось, паказваю на карце г. Полацак, слаўны, старажытны горад Беларусі.

Аб каштоўнасьцях беларускай культуры, здабытых на працягу тысячыгодзьдзя, вымоўна расказвае разьдзел з кнігамі. Тут імпазантныя выданьні: «Жывапіс Беларусі XII — XVIII стагодзьдзяў», «Пластыка Беларусі XII — XVIII стагодзьдзяў», «Гравюры Францыска Скарыны», «Слуцкія паясы», «Мастак і кніга», «Беларускае народнае адзеньне». «Белавежская Пушча» Мікалая Шарая гаворыць аб дзівосных непраходных беларускіх лясох, аб іх багатых флёры й фаўне. Кнігу гэту із зацікаўленьнем гартаюць й дзеці (на гэта яны атрымалі дазвол). Малыя дзяўчаткі прыглядаюцца да беларускіх лялек з ільну й дзіву даюцца іхнім доўгім у косы заплеценым валасом.

Выстаўка прыцягвала розных людзей з рознымі зацікаўленьнямі. Вось за адным сталом, акружаным наведвальнікамі, сядзіць паважна сканцэнтраваны над працай сп. Мікола Шуст. Ён, у хораша вышытай Юляй Андрусышын беларускай кашулі. Мікола не гаваркі, моўчкі дэманструе сваё ўмельства — інкрустацыю саломкі на дрэве. За яго гаворыць сп-ня Марыльха Каладзейская. Яна тлумачыць й паказвае вялікі збор выкананы М. Шустам калярытных прадметаў інкрустацыі. Тут розных размераў і з рознымі ўзорамі рамкі, дэкаратыўныя абразкі, дзівосныя пудэлкі. Ды найболей захапленьня вартыя былі два, можна сказаць, кафэйныя столікі, уся плошча якіх выкладзеная калярытным узорам, пакрытая шклом. На адным із столікаў разложана так патрэбная тут літаратура пра Беларусь і пра ККБК, які летась сьвяткаваў свой чвэрцьстагодні юбілей.

Нельга забыцца й пра вязаны з лазы, сьв. пам. Аўгенам Трусавым з Францыі, такі наш кошык. Хутка перад сваёй сьмерцьцю Аўген Трусаў прыслаў на Каляды гэты кошык з сьвяточнымі цукеркамі Старшыні Рады БНР Вінцэнту Жук-Грышкевічу. На выстаўцы гэты гістарычны кошык быў напоўнены беларускімі паштоўкамі.

Кіраўніцтва ККБК выказвае шчырую падзяку за ўдзел у выстаўцы й супрацоўніцтва: сп. сп. Міколу Шусту і Арсеню Моніду, якія прыехалі з жонкамі з далёкіх Лёндану й Гамільтону; спадарыням: Марыі Каладзейскай з Алістону й Рагнедзе Грышкевіч-Аляхновіч зь Менску; гэтаксама сп. Міколу Каладзейскаму й сям'і Уладзіміра Мароська, сталым наведвальнікам нашага павільёну,за іхнюю маральную і фактычную дапамогу; Джону й Грэгоры за ўладжаньне падставаў для выстоўкі ды спадарыні Глёры Тэйляр, галоўнаму арганізатару фэстывалю за запросіны прыняць удзел у гэтай цікавай і важнай імпрэзе.

А тымчасам да наступнага году, да наступнага фэстывалю!

**Раіса Жук-Грышкевіч**

## ЧАРНОБЫЛЬ І ЎЗБРОЕНЫЯ СІЛЫ

Гомельскі абласны ваенны камісарыят паведаміў, што сёлета прыблізна з 1500 навабранцаў амаль кожны пяты не прайшоў у армію па мэдыцынскіх нормах. Летась Гомельшчына павінна была даць узброеным сілам чатыры тысячы маладых жаўнераў, ад нак 1200 хлопцаў не прайшлі з гледзішча на стан здароўя. У асноўным гэта жыхары забруджаных радыяцыяй раёнаў.

## ШАГАЛАЎСКІ ВІЦЕБСК



*Помнік М.Шагалу у ягоным родным месьце Віцебску.*

У пачатку ліпеня сёлета Віцебск сьвяточна адзначыў 105-ыя ўгодкі нараджэньня сусьветна ведамага мастака Марка Шагала. Трохдзённыя імпрэзы заключалі ў сабе найперш II Міжнародныя Шагалаўскія Чытаньні, на якія, акрамя навукоўцаў і творцаў менчукоў і віцябляна́ў, зьехаліся госьці з Расеі ды Нямеччыны. У часе Чытаньняў дыскутаваліся тэмы аб уплывах гораду Віцебску ды тутэйшае культуры (у тым ліку праваслаўя) на глыбокую творчасьць мастака й паэты.

Упяршыню, пасьля шматгадовага забыцьця вялікага сына беларускае зямелькі, тутака зробленая спроба ўдзячных патомкаў «пасланца нябёсаў» (Р. Барадулін) аднавіць атмасфэру Віцебска Шагалаўскіх часоў. У Задзьвіньні на вуліцы Пакроўскай распачатая праца па адбудове ў першапачатковым выглядзе жытла творцы. У гэтымжа дамку ўтворыцца музэй генія пэндзэля. Недалёка, на рагу трох старажытных вуліцаў, узьнеслася ў вышыню арка-помнік Марку Шагалу, зробленая скульптарам Н. Гвоздзікавым.

Адраджэньне духовае атмасфэры мастацкага асяродзьдзя Шагалаўскіх часоў у цяперашнім Віцебску немажліва без падтрымкі усіх беларускіх творцаў ды іхнага далучэньня да сьветавага культурнага працэсу. Дзеля гэтага ў старым месьце Віцебску створаны Арт-Цэнтар Марка Шагала. І ўжо адразу пасьля ягонага ўрачыстага адкрыцьця, запрацавала там выстава польскае мастачкі Марыі Антоняк.

Віцебск вяртаецца ў Эўропу...

**Юрась Сьцяпанаў**

***Натальля Арсеньнева***

# ЛІСТАЮЧЫ БАЧЫНЫ МІНУЛАГА

*Усё далей сплывае ўдалеч, у змрок*
*той край, дзе люба усё…*
*О, Беларусь!*
*хай так, мы зь верай*
*цябе і ў далеч панясём!*

Не адно паэт, што пісаў гэтыя радкі, але, плывучы ў далёкую, нязнаную Амэрыку, думала гэтак і бальшыня выгнаньнікаў-уцекачоў, «перамешчаных асобаў», «ДП», як афіцыйна называлі нас тады акупацыйныя ўлады у зруйнаванай вайной Нямеччыне. І запраўды: апынуўшыся тут мы неяк не пачуліся разгубленыя, цалкам самотнымі між чужымі, бо згуртавалі нас яшчэ ў Нямеччыне у большыя ці меншыя грамадкі гэтак званыя лягеры ДП, арганізаваныя дабрадзейнымі арганізацыямі дзяржаваў-пераможнікаў у трох акупацыйных зонах Нямеччыны — Амэрыканскай, Ангельскай і Француская.

Адным зь першых найбольшых гэткіх лягераў быў лягер у Рэгенсбургу, старым і прыгожым нямецкім месьце над Дунаем. Побач з «перамешчанымі асобамі» з амаль усіх краінаў Усходняе Эўропы знайшла тут прытулак і вялікая беларуская група.

У складзе ейным былі навукоўцы, пісьменьнікі й паэты, выдатныя кампазытары, опэрныя сьпевакі, артыстыя сцэны ды балету, а што, можа было найважнейшым для нас у тую пару, група вельмі добрых пэдагогаў-настаўнікаў. Было ў ёй і цімала дзяцей ды моладзі. Трэба было даць ім нейкую «спажыву для душы», для духу у дадатак да «спажывы для цела», аб чым рупіліся прыгаданыя ўжо вышэй дабрадзейныя арганізацыі.

І вось у Рэгенсбургу была неўзабаве адчыненая нашымі энтузіястамі, на чале з др. Аляксандрам Орсам, «Беларуская Гімназія імя Янкі Купалы».

Як некалі, гады таму, адчыненую ў Вільні напрыканцы 1919 году Першую Віленскую Беларускую Гімназію ахрысьцілі пазьней ейныя гадунцы, а за імі і ўсё беларускае грамадзтва «Кузьняй Беларускага Духу», гэтак і Беларускую Гімназію імя Янкі Купалы сьмела можна назваць гэтым самым слаўным іменьнем. Бо хто ведае, ці-б мелі мы сяньня на чужыне гэткую моцную творчую грамаду, што годна рэпрэзэнтуе Беларусь ужо больш, чым паўвеку, каб не яна?

Сталася гэта вельмі проста:

У 1946 годзе, неяк пад восень, беларуская група была перанесеная з перапоўненага шматнаацыянальнага лягеру ў Рэгенсбургу у меншы, але паводле складу ўжо чыста Беларускі лягер Міхельсдорф каля невялікага баварскага гарадку Кам. Пераехала з намі ў Міхельсдорф і Беларуская Гімназія імя Янкі Купалы. У склад ейных настаўнікаў запрасілі й мяне выкладаць нямецкую мову ў 2-ой і 3-яй клясах і француззкую ў старэйшых. З падручнікамі было сьпярша цяжкавата, але неўзабаве праца наладзілася. Міналі дні й тыдні і я шчыра палюбіла сваіх вучняў. Дапамагло мне, як настаўніку яшчэ й тое, што я была вызначаная ў нашым лягеры г. зв. «культурным рэфэрэнтам», што плянаваў і праводзіў, у згодзе з пэдагогамі гімназіі, лягерную культурную працу, а гэта — сцэнічныя выступы, лекцыі ды канцэрты. У кожнай гэткай імпрэзе брала вялікі ўдзел і нашая моладзь, амаль выключна вучні гімназіі. Гэтыя якраз пастаноўкі неяк задзіночвалі, лучылі мяне з маймі хлапцамі й дзяўчаткамі, што было мне вялікай дапамогаю і ў клясе.

Воляю добрага лёсу, у нашым лягеры апынулася шмат выдатных працаўнікоў мастацтва, між імі кампазытары Міколы Куліковіч-Шчаглоў, Мікола Равенскі, опэрная сьпявачка Барбара Вержбаловіч, Натальля Чэмярысава, артысты драмы й балету, пісьменьнікі ды паэты. Усе яны вельмі ахвотна ўлучаліся ў культурнае жыцьцё лягеру, бо-ж, «не адным хлебам жыве чалавек». А побач з прафэсыйнымі артыстамі, у культурным жыцьці лягеру заўсёды брала ўдзел і нашая моладзь, вучні малодшых і старэйшых клясаў гімназіі імя Янкі Купалы.



*На «КУПАЛЬЛІ», лета 1946 г.*

Памятаю, як яшчэ ў Рэгенсбургу было зладжанае, пад кіраўніцтвам нашых прафэсійных мастакоў, вельмі ўдалае «Купальле», з удзелам, можна сказаць, ня толькі нашае школьнае ды гімназіяльнае моладзі, а ўсяго нашага лягеру: хто, з дазволу, ведама, лягерных уладаў, цягнуў з недалёкага лесу ёлачкі ды бярозкі, каб упрыгожыць сцэну, хто пасыпаў ейныя нягэбляваныя дошкі пахучым ярам, найрваным у балотцы за лягернымі будынкамі, хто майстраваў на сцэне сапраўднае вогнішча, бо якое-ж гэта Купальле бяз вогнішча! А вучні старэйшых клясаў гімназіі, пераважна дзяўчаты, лёталі за сцэнай, як тыя матылі, прымяраючы сьвежа адпрасаваныя вышываныя беларускія кашулі ды хвартушкі.

І якое-ж прыгожае атрымалася, памятаю, гэтае «Купальле», і ці мала спрычынілася да гэтага якраз і нашая гімназіяльная моладзь!

А якую «Казу» змайстравалі пры дапамозе кампазытара Равенскага старэйшыя вучні гімназіі на Каляды 1946-га, здаецца, году, і як весела пад музыку, адмыслова напісаную кампазытарам, каза гэтая тупала, трасучы галавой, па лягернай залі!

Асабліва, аднак запамяталася мне адна гэткая нашая імпрэза — мантаж, падрыхтаваны намі з кампазытарам Куліковічам з нагоды чародных угодкаў Абвешчаныя Незалежнасьці Беларусі 25-га Сакавіка 1918-га году.

Ужо як далёкі сон бачу я нашую больш чымся сьціплую лягерную залю-сталоўку, прымітыўную сцэну, а на ёй, разьмешчаны паўколам, наш лягерны вучнёўскі хор. Пад гукі музыкі, напісанай нястомным кампазытарам Куліковічам да мае «Песьні Каліноўцаў», рады хору паволі разыходзяцца і на цёмнай сцэне відаць сьціну, закратаванае турэмнае вакенца, а пад вакном стол з блізу дапаленай ужо сьвечкай і пахіленую над ім постаць… Кастуся Каліноўскага.

— «Беларусы, браты мае родныя», паволі пачынае чытаць нізкаватым пранікненым голасам «Каліноўскі» — вучань нашае гімназіі Вітаўт Кіпель — «спад шыбеніцы маскоўскай даводзіцца мне сягоньня да вас пісаць, і, можа быць, раз астатні»… і цёмная заля замірае… Ня памятую ўжо, хто даручыў яму гэтую ролю, хто вучыў яго дэклямаваць гэтыя словы, але й голас і інтанацыя ягоныя былі гэткія натуральныя, гэткія праўдзівыя, што ўсім нам у сьціхлай залі здавалася, што ня наш Вітаўт, а сам ён, Кастусь Каліноўскі, чытае тут нам свой апошні «Ліст спад шыбеніцы». І калі прагучэлі апошнія словы ліста, у змрочнай залі было ціха, як ня было ў ёй, хіба, ніколі…

Нязвычайную гэтую цішыню парушылі, аднак гукі музыкі і хор пачаў паволі выходзіць ізноў на сцэну, засланяючы і турэмную камеру, і постаць таго, хто аддаў, за народ свой, жыцьцё.

«Палыном і быльлём парасьлі нашы нівы
як ня б'емся, ня гнемся над імі укрук,
плён зьбіраюць паны з маскалямі, ня дзіва,
што гаруе народ Твой і Ты, Беларусь!

Гукі песьні мацнелі:

Але годзе! Мы ўстанем! Ціхім раньнем, на ўсходзе,
ссыплем, згорнем у шапкі залатую зару
і ў сталёвым ад кос і ад песьняў паходзе
возьмем волю сабе і Табе, Беларусь!
…Гэй, сьмялей, гэй, далей, не лякаймася сьмерці!
нашы целы і славу сыны падбяруць,
хоць і злоўжым на пожнях гарачыя сэрцы,

але Ты будзеш жыць і расьці, Беларусь.

Мінула шмат гадоў ад гэнага памятнага вечару, ды мне здаецца, што каб не яно, ня слова «Беларусь», якім жылі тады му ўсе, і настаўнікі, і гадунцы Беларускае Гімназіі імя Янкі Купалы, ня было-б на Амэрыканскай зямлі, ані ў іншых далёкіх краінах сьвету гэткае жывое й дзейнае беларускае эміграцыі.

Так, «Кузьня Беларускага Духу» інакш гімназію імя Янкі Купалы не назавеш!

**Рачэстар, 1992 г.**

## АХВЯРЫ СТАЛІНІЗМУ Й ГІТЛЕРЫЗМУ НА БЕЛАРУСІ

Выкладчык БДУ Аляксандар Ганчароў спасылаючыся на дадзеныя беларускага таварыства «Мартыралёг», сказаў што ў пэрыядзе 1924-1954 гадоў у выніку рэспрэсіяў і раскучалваньня ды голаду на Беларусі загінула 2,5 міліёны чалавек. У часе-ж нямецкае акупацыі 1941-1944 гадоў загінула 2 міліёны асобаў. (ЗС, 11.05.92 — 505-49)

*З жыцьця ў Нью-Джэрзі*

## ЭТНІЧНЫ БАЛЬ



Штат Нью-Джэрзі — адзін з найбольш багатых на нацыянальныя групы. Этнічная разнастайнасьць штату штагоду ўшаноўваецца гадавым балем. На сёлетнім балі 30 травеня беларускую этнічную групу прадстаўлялі спадарыні (стаяць, зьлева): Галіна Гіндрыдж, Тамара Дутко, Надзя Кудасава, Крыстына Гіндрыдж і Ірэна Рагалевіч-Дутко (сядзіць). Сп-ня Рагалевіч-Дутко ўваходзіла таксама ў арганізацыйны камітэт балю (загадвала дэкарацыйнай часткай праграмы).

## 46-ты ЗЬЕЗД ЗБВБ

30 траўня 1992 г. у залі пры Бібліятэцы імя Фр. Скарыны адбыўся 46-ты гадавы зьезд Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі. Прывітаньнем сяброў і гасьцей, сярод якіх былі госьці зь Беларусі, сп. Янка Міхалюк, старшыня ЗБВБ, адкрыў зьезд.

У прэзыдыюм зьезду былі выбраныя: М. Швэдзюк — старшыня, др. І. Гурло і мастак В. Мартынчык — сакратары.

Справаздачы зь дзейнасьці галоўнай управы за мінулы год быў задавальняючым, а фінансавы стан арганізацыі ёсьць на высокім узроўні памяма, што былі аказваныя шмат якія грашовыя дапамогі патрабуючым установам і асобам у Беларусі.

Новая галоўная ўправа была папоўнена малодшымі сіламі, у склад яе выбраныя: Я. Міхалюк — старшыня, Я. Ясьвіловіч — заст. старшыні др. І. Гурло — сакратар, П. Асіповіч — скарбнік, мастак В. Мартынчык і А. Зданковіч — сябры Г. управы.

У Наглядную раду выбраны М. Баяроўскі, Лёля Міхалюк і А. Ражанец.

Адсьпяваньнем нац. гімну Зьезд закончыў сваю працу.

**А. Зданковіч**

## НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ СЬВЕДАМАСЬЦЬ — ТЭМА КАНФЭРЭНЦЫІ

Міжнародная Асацыяцыя Беларусістаў і Нацыянальны Навукова-Асьветны Цэнтар імя Ф. Скарыны ладзяць канфэрэнцыю на тэму «Фармаваньне і развіцьцё нацыянальнай сьведамасьці беларусаў», якая адбудзецца 19-20 жніўня ў Маладэчне.

## ДЫПЛЯМАТЫЧНЫЯ ДАЧЫНЕНЬНІ З РАСЕЯЙ

25 чэрвеня сёлета ў Менску прэм'ер Беларусі Вячаслаў Кебіч і першы заступнік расейскага прэм'ера Ягор Гайдар падпісалі пратакол аб наладжаньні дыпламатычных сувязяў паміж дзьвюма рэспублікамі. Гэта першы такі дакумэнт падпісаны беларускім і расейскім урадамі. Далейшыя 12 дакумэнтаў аб дачыненьнях паміж дзьвюма сувэрэннымі рэспублікамі мелі быць падпісаныя ў Маскве 7 ліпеня сёлета.

# ПРАГЛЯД ПРЭСЫ

## Беларускі трактар "Belarus"

15-га чэрвеня сёлета чыкагская газэта "Chicago Tribune" памясьціла здымак беларускага трактару "Belarus" на фарме у Норт Дакота з зацемкай, што гэтыя трактары вырабляюцца ў былых савецкіх рэспубліках: Расеі, Украіне і Беларусі, ды што Амэрыка зьяўляецца галоўным імпартарам трактароў.

Наколькі ведама, трактары "Belarus" ад дзясятку ці болей гадоў, вырабляюцца толькі ў Менску, у Беларусі. Дзеля гэтага, сп-ня Вера Рамук пазваніла ў Associated Press (крыніца інфармацыі) з запытаньнем скуль яны узялі памылковую інфармацыю адносна прадукцыі трактароў «Беларусь» у Расеі і Украіне. На гэта быў адказ, што весткі атрыманыя ад кампаніі Belarus Machinery з Мілвокі, шт. Вісконсын.

Каб дакладна ўпэўніцца аб месцы вырабу трактароў, сп-ня Вера Рамук пазваніла да амбасадара Беларускай Місіі пры Аб'еднаных Нацыях у Нью Ёрку Гэнадзя Бураўкіна, ды атрымала спадзяваны адказ, што трактары Беларусь вырабляюцца толькі ў Менску.

Пасьля гэтага сп-ня Вера Рамук паведаміла газэту "Chicago Tribune" аб вышэй нагаданым. Рэпартэрка, аднак, папрасіла тэлефон Беларускай Місіі ў Нью-Ёрку, ды назаўтра паведаміла Веру Рамук, што будзе ўнесеная папраўка, з увагі на тое, што першы сакратар Беларускай Місіі падцьвердзіў факт, што Менск, Беларусь зьяўляецца адзіным месцам вырабу трактароў "Belarus".

Папраўка была ўнесеная ў "Chicago Tribune" 18-га жніўня, з азначэньнем, што Associated Press падало памылковую інфармацыю.

Як важна сачыць за прэсай і дамагацца выпраўленьня ўсялякіх памылак і недакладнасьцяў аб Беларусі і яе дасягненьнях.

Паводля газэты "State Journal Register" у Спрынгфілд, штату Ілліной за 14-га чэрвеня, трактары "Belarus" прадаюцца ў Злучаных Штатах ад 1975 году. У апошнія колькі гадоў продаж іх павялічыўся, асабліва пасьля распаду Савецкага Саюзу. На працягу 16 гадоў было прададзена трактароў "Belarus" на суму 140 мільёнаў даляраў, з гэтага болей за 81 мільён прыдбаны на працягу трох апошніх гадоў. У мінулым годзе амэрыканскія фармеры купілі 4 тысячы трактароў "Belarus" на суму 31 мільён даляраў.

Трактар ".Belarus" прадацца ў 27-х дзяржавах сьвету, Амэрыка, аднак, зьяўлецца галоўным імпортэрам трактароў, якія прадаюцца гадлёвымі прадстаўнікамі ў 200 мясцох. Прадаюцца яны за 17 000 даляраў, тады як параўнальны амэрыканскі каштуе прыблізна 45 000 даляраў. Паводля знаўцаў, трактар «Беларусь» можна лёгка утрымваць у добрым стане.

Цікава аднак ведаць, куды ідуць грошы ад продажу трактароў "Belarus" — у Менск ці ў Маскву?

**Вітаўт Рамук**

## ВІЦЕБШЧЫНА: БОЛЬШ ПАМІРАЕ ЯК РОДЗІЦЦА

Як падала радыяпраграма «Панарама» (23.VI.92), у Віцебскай вобласьці колькасьць жыхароў штамесяца меншае на 300-400 чалавек. Такога не назіралася нават у цяжкія паваенныя гады. Калі за цэлы 1991 год прырост жыхарства ў вобласьці быў мінус 370 чалавек, дык за першыя чатыры месяцы сёлетняга году жыхароў вобласьці стала менш на 1239 асобаў. Людзі паміраюць у асноўным ад сардэчна-сасудзістых хваробаў, анкалягічных (ракавых) захварваньняў, нешчасьлівых выпадкаў, атручаньня, траўмаў і хваробаў органаў дыханьня.

## АФІЦЭРЫ-БЕЛАРУСЫ

Паводля міністра абароны Беларусі ген.-палк. Паўла Казлоўскага, «за межамі рэспублікі служаць 39 тысяч афіцэраў — былых грамадзян Беларусі». Зь іх, сказаў міністар, ужо ёсьць 6 тысяч, якія жадаюць вярнуцца дадому. Разьмеркаваньне ідзе. Але яно залежыць ад наўянасьці пасад. «Паклікаць афіцэра і зрабіць яго беспрацоўным — нясур'ёзна», зазначыў ген. Казлоўскі. («Зьвязда», 30.05.92)

## РОСТ БЕСПРАЦОЎЯ

Менская праграма «Радыёфакт» (25.05.92) паведаміла, што: «Паводля прагнозаў Рэспубліканскай службы занятасьці да канца гэтага году колькасьць беспрацоўных (у Беларусі) дасягне 810 тысяч чалавек... Калі-ж крызісныя зьявы ў эканоміцы ня спыняцца, колькасьць беспрацоўных можа перасягнуць мільён чалавек». (Радыё «Свабода», «Мат. Бел. Маніторінга» № 18, травень 1992).

## НОВЫ КРЫТЭРЫЙ ВЫМЯРЭНЬНЯ

«Ацэньваць скутак дзейнасьці людзей трэба адно з пункту гледжаньня, якую карысьць даў ён свайму народу. У гэтым зьвязку можна параўнаць, хто больш каштоўны для Радзімы: Пётр Машэраў ці Радаслаў Астроўскі? (ЛіМ», 5.06.92)

## СТАН ДРУКУ Ў БЕЛАРУСІ

Паводля міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Анатоля Бутэвіча («Рэспубліка», 9.VI.92), «на сёньняшні дзень зарэгістравана 465 газэт і часапісаў. Зь іх 138 выходзяць на беларускай мове, 158 зьяўляюцца двухмоўнымі. Газэта і часапіс друкуюцца на польскай мове».

Значыцца, па-расейску выходзіць 197 газэт і часапісаў. У працэнтах гэта выглядае наступна: па-беларуску — 29 працэнтаў, па-расейску — 36, двумоўных — 34 працэнты.

Трэба памятаць, аднак, што гутарка тут пра назовы газэт і часапісаў. Калі-ж гаварыць пра тыражы, дык адносіны будуць зусім іншыя, бо расейскамоўныя газэты выходзяць, як правіла, большымі тыражамі.

## «БЕЛАРУСКАЯ МІНУЎШЧЫНА»

Урад Беларусі пастанавіў аб выхадзе новага часапісу — «Беларуская мінуўшчына», «які адрасуецца ня толькі навуковым работнікам, выкладчыкам і студэнтам, але ўсім, каго цікавяць пытаньні мінулага нашай Рэспублікі і беларускага народу». («Радыёфакт», 24.VI.02)

## МОВА, АДУКАЦЫЯ І «БЯЗГЛУЗЬДЗІЦА»

Міністар адукацыі Беларусі Віктар Гайсёнак у інтэрв'ю газэце «Чырвоная зьмена» (1.06 — 07.06.92):

«Хіба можа існаваць незалежная краіна, якая ў навучаньні дзяцей карыстаецца іншаземнай мовай? Гэта бязглузьдзіца».

Сп. Гайсёнак сказаў, што «прыкладна 70 працэнтаў першаклясьнікаў пойдуць вучыцца ў беларускія клясы». Значыцца, 30 працэнтаў «бязглудзьдзіцы» ячшэ ўсё застаецца.

Між іншага, міністар зазначыў, што «бацькі ўжо спакойна ўспрыймаюць тое, што іх дзіця ідзе ў беларускі кляс».

# НОВЫЯ ПУБЛІКАЦЫІ

**Ян Пятроўскі. ЛЕПШЫЯ ДУМКІ ЧАЛАВЕКА.** Том трэйці. Выданьне Беларускага Дабрадзейнага Адукацыйнага Фонду. Гейнсвіль, Флярыда, 1992. 205 ст.

Укладальнік гэтага зборніка, сп. Пятроўскі, зьмясьціў выбранае ім з выказваньняў старажытных і навейшых філёзафаў і пісьменьнікаў на тэмы чалавечага быту, характару чалавека і чалавецтва. Тут-жа — і выпісы зь некаторых літаратурных твораў, гістарычных працаў, лісты самога сп. Пятроўскага, пара Купалавых вершаў, даведка пра Міхала Кукабаку ды іншые. У канцы зборніка — «Індэкс аўтараў і кніжацаў», хоць крыніцы далёка ня ўсюды падзены.

Зборнік адчыняецца выказваньнем Вальтэра, які сказаў: «Трэба зьвяртаць увагу на памылкі ў кажнай карыснай кнізе». Выконваючы гэтае пажаданьне, зьвяртаем увагу, што па-беларуску трэба пісаць ня Вольтэр, а Вальтэр (з націскам на апошнім складзе), ня Маттью, а Мат'ю (у беларускай мове пасьля літары «т» мяккі знак ніколі ня пішацца); не Фляўбэрт, а Флёбэр (або Флябэр), ня Гэнрі і ня Рёскін, а Гэнры і Роскі («р» вымагае пасьля сябе цьвярдую галосную).

Кніга «Лепшыя думкі чалавека», бясспрэчна, карысная, але яна была-б лепшай, калі-б у ёй было менш моўных памылак.

**НЯМЕЦКАМОЎНЫ АГЛЯД: Рэсп. Беларусь 1991.**

Трынаццаць гадоў у Боне, сталіцы Заходняй Нямеччыны, сп. Уладзімер Сенька выдаваў гадавыя агляды беларускага савецкага друку, якімі шырака карысталіся заходнія дасьледнікі Беларусі. Апошні гэткі гадавік выйшаў за леташні год: **INFORMATION-SHEFTE 1991. REPUBLIK WEISSRUSSLAND (ehem. BELORUSSISCHE SSR). 68 S.**

Матар'ял у ім арганізаваны ў разьдзелах: 1. Асабістасьці. 2. Дзейнасьць кіраўніцтва. 3. Замежныя дачыненьні. 4. Нутраныя справы. 5. Эканоміка. 6. Культура. Інфармацыя пададзеная ў асноўным паводля газэтаў: «Советская Белоруссия» і «Зьвязда».

У канцы зборніка рэдакцыя зазначае, што гэта апошні выпуск — выхад публікацыі спыняецца, паколькі Беларусь выйшла з ізаляцыі, у якой яна была пад камуністычнай тыраніяй.

---

**«ХРЫСЬЦІЯНСКАЯ ДУМКА» № 211-ы і ПЕРШЫ**

Зьявіўся сьвету часопіс «Хрысьціянская думка» — першае і пакуль адзінае выданьне падобнага тыпу у сучаснай Беларусі. Часопіс зьяўляецца як бы спадкаемцам аднайменнага выданьня хрысьціянскіх дэмакратаў Заходняй Беларусі (выйшла 210 нумароў).

Сымбалічна, што адзін з галоўных матар'ялаў (аўтар Анатоль Сідарэвіч) прысьвечаны 100-годзьдзю з дня нараджэньня выдатнага адраджэнца кс. Адама Станкевіча — выдаўца-рэдактара колішняй «Хрысьціянскае думкі».

Алесь Бяляцкі распавядае аб Браславе і браслаўскай парафіі.

Многія матар'ялы разьлічаны на інтэлігентнага, дасьведчанага чытача. Беларусь і Партугалія: нечаканыя паралелі у публікацыі Яугена Шунейкі «На узьбярэжжах». Як называць Бога: Пан, Госпад, Спадар? (Дасьледаваньне Алеся Жлуткі). Паэзія Казімера Сваяка, разважаньні біскупа Часлава Сіповіча пра асновы беларускага патрыятызму, апавяданьне пра жыцьцё сусьветна вядомага айца Піо (пераклад кс. Уладыслава Чарняўскага) — гэта ды многае іншае вы знайдзеце на 190 старонках часопіса. Далей мяркуецца выдаваць чатыры нумары на год.

У канцы нумара пададзены пераказ зьместу на італьянскай, ангельскай, польскай, украінскай і летувіскай мовах.

Бяз Вашае дапамогі нашаму часопісу ня выжыць. Пісаць на адрас: Беларусь, 220002 Менск, вул. В. Харужай 35-42. Сп. Зьміцер Саўка.

COMMONWEALTH OF INDEPENDENT STATES AND CENTRAL/EASTERN EUROPE. Fourth Edition. Minton F. Goldman, ed. The Dushkin Publishing Group, Inc., Sluice Dock, Guilford, Conn. 06437.

Амэрыканскае выдавецтва Душкіна выдала сёлета чацьвертае выданьне даведніка пад заг. «Садружнасьць Незалежных Дзяржаваў і Цэнтральная/Усходняя Эўропа». Рэдактар кнігі — праф. Нортўэстэнскага Ўнівэрсытэту Мінтан Ф. Гольдман.

У зборніку: сьціслы агляд апошніх падзеяў на тэрыторыі былога Савецкага Саюзу і Цэнтральнае Эўропы, карты, статыстыка, ілюстрацыі, бібліяграфія, паказьнік матар'ялаў. Належнае месца адведзенае ў кнізе і Беларусі.

Кніга выйшла ў сэрыі «Глябальнае вывучэньне» (Global Studies), якая набывае папулярнасьці, бо апошнія падзеі паказваюць на ўсё большую ўзаемасувязь краінаў у іхным эканамічным, палітычным і культурным разьвіцьці. Каб разумець, што адбываецца сёньня ў сьвеце, трэба быць глябальна пісьменным. Як сказаў лаўрэат узнагароды імя Пуліцэра Рэнэ Дзюбо: «Стаецца ўсё больш відавочным, што кожны з нас мае дзьве краіны, адную сваю ўласную, а другую — плянэту Зямлю.

**ДА ГІСТОРЫІ ПРАВАСЛАЎЯ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ**

Карысную справу зрарабіў а. пратаярэй Рыгор Сасна, выдаўшы летась кнігу: **Grzegorz Sosna. Kościół PRAWOSŁAWNY NA BIAŁOSTOCCZYŹNIE** w okresie międzywojennym. Wybór dokumentów. Sytuacyjne sprowozdania Władz Wojewódzkich w Biatymstoku z lat 1928-1939. Ryboły, 1991. 113 str.

Аўтар ўступу да кнігі Аўген Міраловіч піша: «У працы гэтай — збор дакумэнтаў, што знаходзяцца ў Дзяржаўным ваяводзкім архіве ў Беластоку. Выбар дакумэнтаў, зроблены а. Сасном і іх публікацыя даюць магчымасьць азнаёміцца з сытуацыяй праваслаўя у розных аспэктах. Са зьместу 114 дакумэнтаў вырысоўваецца абараз складаных абставінаў, у якіх заблытаная была Праваслаўная Царква ў 2-й Рэчыпаспалітай... Нідзе паланізацыя праваслаўя не пайшла так далёка як на землях тагачаснага Беластоцкага ваяводзтва... Тэкст некаторых дакумэнтаў можна чытаць зь недаверам, зьдзіўленьнем, абурэньнем або як сэнсацыю, але ўсё гэта словы, што іх адлюстроўваюць калярыт эпохі».

**ПАДЗЯКА**

З удзячнасьцяй адзначаем, што газэтныя выразкі ды іншыя прэсавыя матар'ялы, якія ўзбагацілі зьмест «Беларуса», нам прыслалі сп.сп.: Ч. Найдзюк, В. Рамук, Ю. Станкевіч, А. Маркевіч, Я. Арцюх, Я. Жамойцін, Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі, Т. Бэрд, М. Раецкі, М. Латушкін.

# КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ ЗЬ БЕЛЬГІІ

Зусім неспадзявана тэлефонны званок ад Вячкі Станкевіча, кіраўніка Беларускай сэкцыі «Радыё Свабода» ў Мюнхэне: «Прыязджае ў Бэльгію Аляксандар Лукашук, галоўны рэдактар выдавецтва «Беларусь». Я даў яму твой нумар тэлефону і ён скантактуецца з табою. Вельмі было-б добра каб ты зь ім спаткаўся». Вось нешта ў гэтым сэнсе. Праўда, даў крыху выясьненьняў хто ён і зь якой справай зьвязаны ягоны прыезд у Бэльгію.

Лукашук пазваніў, але са спатканьнем справа скамплікавалася, бо ён вельмі заняты і мусіць быць ўвесь час у Антвэрпэне. У такім выпадку я запрапанаваў яму, што я таксама прыезду ў Антвэрпэн. Прапанову маю сп. Лукашук прыняў вельмі прыхільна і спытаўся ці я змог-бы прысутнічаць на прэзэнтацыі кніжкі, аўтар якое зьяўляецца журналістам бэльгійскага радыё-тэлебачаньня фламандзкай сэкцыі (BRT) Стэфан Блёмарт.. Зразумелая рэч, што гэта мяне цікавіць, тым больш, што ладная частка гэтай кнігі прысьвечаная Беларусі і Аляксандар Лукашук шмат дапамагаў аўтару.

Спаткаліся мы на кватэры аўтара кніжкі. Алесь Лукашук зрабіў на мяне вельмі добрае ўражаньне: сьведамы беларус, першаклясна гутарыць па-беларуску, чалавек высокае культуры і добра валодае ангельскай мовай.

Пасьля амаль двухгадзіннае гутаркі спадар Блёмарт павёз нас на урачыстасьць. Цэрымонія адбывалася ў Амстэрдамскім рэстаране пад назвай «Горкі».

Заля была перапоўненая. Вялікая частка прысутных — журналісты фляманскамоўнае прэсы і радыё. Прадстаўнік выдавецтва «Крітак» дае камэнтары адносна кніжкі. У перакладзе на беларускую мову загаловак кніжкі гучаў-бы: «Нельга але можна». Пасьля прадстаўніка «Крітак» узяў слова сп. Лукашук.

Вельмі для мяне было прыемна пачуць уступ на чысьцюсенькай беларускай мове: «Паважанае спадарства, зьвяртаюся да вас на беларускай мове...» Вельмі праўдападобна, што для бальшыні прыстуных было гэта навінкай — пачулі яны нашую мову ўпяршыню.. Далей сваю прамову Алесь прадаўжаў па-ангельску. Тут гэтаксама хачу падкрэсьліць ягоныя надзвычайныя здольнасьці прамоўцы.

Пасьля Алеся ўзяў слова аўтар кніжкі Стэфан Блёмарт. Ён расказаў аб сваіх шматлікіх паездках у былы Саюз, у тым ліку у Беларусь, як ён пазнаёміўся з Аляксандрам Лукашуком, якога ён заве Саша, падзякаваў яму за ягоную дапамогу ў пісаньні кнігі і па-беларуску сказаў: «Дзякуй, Саша...»

Прызнаюся, што назва кніжкі спачатку была для мяне незразумелай. Выясьненьне простае: у былым Савецкім Саюзе вельмі многае было забароненае (Нельга), але ня гледзячы на забароны, шмат што рабілася (але — Можна).

Зьмест кніжкі даволі багаты і прысьвечаны ў асноўным жыцьцю людзей былога Савецкага Саюзу.

«Год таму, — піша аўтар — адзін сябра зь беларускага гораду Менску (Лукашук) пытае яго ці ня варта было-б напісаць нешта ў форме нарысу аб Савецкім Саюзе і аб людзёх, якія яго засяляюць. Кніжка, якая была-б прысьвечаная ім і аб іх.

Адразу-ж паўсталі пытаньні: Як працуе бэльгійскі журналіст у краіне зь непранікальнай бюракратыяй? Ці не зьяўляецца аўтар шпіёнам КДБ? Калі не, дык што робіць ён падчас путчу ў Маскве?», і г. д. Адным словам прыпісвалі яму нават шпіёнства.

«Калі я — піша сп. Блёмарт — званіў Сашу ў Менск і расказаў яму як справа ідзе ў Бэльгіі, дык прыпомніў ён мне адзін эпізод, які ён мне калісь расказваў. У 1989 годзе быў ён (г. зн. А. Лукашук) актыўна заангажаваны ў БНФ (Беларускі Народны Фронт). У той час Беларусь уважалася найбольш кансэрватыўнай, з пункту гледжаньня як партыйнага гэтак і дзяржаўнага кіраўніцтва. Нездарма называюць яе Вандэяй Савецкага Саюзу. Змаганьне, якое вялося супрць БНФ мясцовымі кіраўнікамі было неагранічанае: незабывайма, што першы Кангрэс гэтага руху адбыўся ня ў Менску, а ў Вільні. Саша асабіста на меў магчымасьці браць удзел у Кангрэсе — прадаўжае Блёморт — у гэтым часе, у чырвені 1989 г. ён з жонкаю Сьветай зьведваў Бэльгію. Якраз тады-ж вялося камуністычнаю партыяй жорсткае змаганьне супроць інтэлектуалістаў, актывістаў і журналістаў. На адным паседжаньні Цэнтральнага Камітэту сурова выступіў старшыня ідэалягічнага аддзелу супраць галоўнага рэдактара газэты «Зьвязда», у якой Саша працаваў. Што «Зьвязда» трымае ў актыве такога ненадзейнага журналіста — ёсьць проста недапушчальна. І што гэты журналіст умешаны ў БНФ — перасягае ўсе ўяўленьні. 'О, але-ж ён на канікулах' — адказвае з усьмешкай галоўны рэдактар. 'Зразумелая рэч каб арганізаваць Кангрэс' — крычыць старшыня! 'Ды дзе там, ён за мяжою, у Бэльгіі' 'Тады ён там атрымлівае інструкцыі' — гучыць канчатковая рэпліка.

Мой эпізод — кажа на заключэньне Саша — мае пэўную паралель з вашай бельгійскай афэрай КДБ. Такім чынам мы застаемся ў поўным разьліку».

Далейшы прабег вечару праходзіў у сяброўскай атмасфэры: прысутныя знаёміліся, распытваліся, цікавіліся, асабліва Алесям, і крыху мною.

Зусім нечакана знаёміць нас адзін Бэльгіец з маладым Беларусам зь Менску. Ні імя, ні прозьвішча не запамятаў. Працуе ён у нейкім турыстычным бюро як перакладчык, таму цяпер знаходзіцца ў Антвэрпэне. Гэты малады Мінчук вітаецца з намі па-расейску: «Здравствуйте! Вы тоже Белорусы? Ну так, адказваю, ды нават па-беларуску гутарым. Даведаўшыся, што я ўжо ад доўга часу жыву па-за Беларусяй, дзівіцца (усё па-расейску), што я не забыў беларускае мовы. — Так, кажу я яму, Захад мае роднае мовы не адняў ад мяне і нават не забрудзіў...

Зьвяртаюся да Алеся з пытаньнем: якая сытуацыя цяпер на Беларусі адносна беларускае мовы. Алесь адказвае, што пакуль без вялікіх зьменаў, але ёсьць прагрэс — моладзь пазытыўна адносіцца да вывучэньня роднае мовы. Зрэшты — гэта неабходнасьць, бо беларуская мова зацьверджаная як дзяржаўная, дык каб працаваць у дзяржаўных установах неабходна будзе яе ведаць. Наш Мінчук, зь нейкіх прычынаў, не дачакаў канца нашай гутаркі і незаўважна зьнік у агульнай масе. Шкада, бо хацелася зь ім яшчэ пагутарыць.

Меў нагоду спаткаць ведамага ўжо чытачом «Беларуса», бэльгійскага журналіста Фрэды Дэ Паў (гл. «Беларус» но. 390). Фр. Дэ Паў, акрамя двух успомненых у «Беларусе» артыкулаў, напісаў таксама кніжку пад загалоўкам «Народы бяз дзяржаваў» (на фламандзкай мове). У часцы прысьвечанай Беларусі Фр. Дэ Паў піша аб БНФ, аб беларусізацыі, аб адкрыцьці Зянонам Пазьняком Курапатаў, аб страшэннай катастрофе Чарнобыля і аб трагічных пасьледках яе на тэрыторы Беларусі.

Цэрымонія прадаўжалася да позьняе ночы...

Дамовіліся з Алесям спаткацца ячшэ заўтра, — толькі дзе? Вось зноў звоніць мне, што абсалютна ня можа прыехаць у Брусэль... Дык зноў еду ў Антвэрпэн каб яшчэ пагутарыць з Алесям. Гадзіны тры ці больш прадаўжалася наша гутарка. Маглі-б і больш, але Алесь заўтра адлятаў дамоў і шмат справаў мусіў заладзіць. Дамовіліся спаткацца ў Менску, без дакладнае даты. Дай Божа! Спадзяюся!

**Я. Жучка**

# ХРОНІКА БЕЛАРУСКАГА АБ'ЕДНАНЬНЯ Ў ЗАХОДНЯЙ АЎСТРАЛІІ

Ня гледзячы на нашыя высілкі ў інфармаваньні ўстановаў і прэсы аб зьмене назову Беларусі, усё яшчэ, часад-часу здараецца, што ў газэтах зьяўляецца стары назоў. Але й гэта не праходзіць міма нас. Рэагуем безадкладна пісаньнем лістоў-пратэстаў у рэдакцыі, каб папярэдзваць журналістаў аб учыненых імі памылках.

### Удзел Беларусаў у дэманстрацыях

Беларусы Заходняй Аўстраліі ў мінулым прыймалі ўдзел у дэманстрацыях Балтыйцаў, Харватаў, Македонцаў і Славенцаў. 16-га траўня яны не адмовіліся падтрымаць дамаганьні Босьніі-Гэрцагавіны стаць вольнымі і незалежнымі, а І-га чэрвеня — Кітайцаў, калі яны адзначалі ўгодкі Бэйджынскай масакры.

### 50-ыя угодкі трагічнай сьмерці Янкі Купалы

Адзначэньне 50-ых угодкаў сьмерці вялікага беларускага Песьняра й Прарока абыліся 27-га чэрвеня ў Беларускім народным доме ў Байсвотэр. Вітаў прысутных і адчыніў акадэмію старшына Б.А. у З.А. Міхась Раецкі малодшы, а айцец Уладзімер прачытаў малітву за душу сьветлай памяць Янкі Купалы. Прынагодныя даклады зрабілі па-ангельску Міхась Раецкі малодшы, а па-беларуску Р.М.

Пасьля акадэміі адбылася нарада парафіянаў у часе якое разглядалася справа царкоўнага будынку.

### ЛІСТА АХВЯРАДАЎЦАЎ ДЛЯ ПАЦЯРПЕЎШЫХ АД РАДЫЯЦЫІ НА БЕЛАРУСІ (Сабраныя грошы былі перасланыя Архіяпіскапу Мікалаю 21.1.1991 г.)

| | |
|---|---|
| Др. А. Бразоўскі | аўстр. дал. 100.00 |
| сп-ва Кацюба | 20.00 |
| Н. Шэрба | 40.00 |
| М. Мароз | 60.00 |
| А. Мароз | 150.00 |
| Е. Домброўскі | 20.00 |
| Э. Стыль | 20.00 |
| Х. Дэнэйко | 40.00 |
| Л. Кюнды | 20.00 |
| Міхась Ёлаб | 20.00 |
| З. Ёлаб | 30.00 |
| М. Ёлаб | 20.00 |
| П. і В. Дарэўскі | 100.00 |
| А. і С. Ніжнік | 50.00 |
| Мікола К. | 30.00 |
| Ляшкевіч | 5.00 |
| А. іК. Чабатар | 20.00 |
| Марыя | 5.00 |
| У. Раецкі | 50.00 |
| Б. А. у З. А. | 486.17 |
| Усяго | 1286.17 |

### ПЕРАХОД АРМІІ НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ

БЕЛТА паведаміла 22 чэрвеня 1992 г. аб зацьверджаньні калегіяй Міністэрства абароны Беларусі праграмы паступовага пераходу ўзброеных сілаў рэспублікі на беларускую мову. Перавод арміі на дзяржаўную мову Беларусі зойме шэсьць гадоў.

### ДЗЕЦІ З МАГІЛЁВА НА АДПАЧЫНКУ У ПЭРЦЕ

23-га чэрвеня, на запрашэньне заходня — аўстралійскіх скаўтаў у Пэрт на чатырохтыднёвы адпачынак прыбылі беларускія дзеткі з радыяцыйнай зоны Беларусі. Пасялілі іх ў аўстралійскіх сем'ях, дзеці якіх належаць да арганізацыі скаўтаў. 15-га ліпеня ў украінскім клюбе «Кіеў» было спатканьне зь дзецьмі і іх кіраўнікамі — перакладчыкамі.

Афіцыйная частка пачалася адыйграньнем Аўстралійскага і Беларускага гімнаў; украінцы свой гімн — адсьпявалі. Сп. Папоўскі, старшыня ўкраінскай арганізацыі старэйшых скаўтаў прадставіў сп. Сірко, які вітаў прыбыўшых дзяцей і прысутных. За ім выступіў старшыня Б.А. у З.А. сп. М. Раецкі малодшы, які па-ангельску вітаў прыбыўшых дзетак і усіх прысутных, падзякаваў прадстаўніком скаўтаў за іх дапамогу ахвярам радыяцыі на Беларусі ды ўсім, што ў той ці іншай меры спрычыніліся да гэтай сустрэчы. Ад імя Беларусаў у Заходняй Аўстраліі па-беларуску вітаў беларускіх дзяцей Р.М. Апошнім выступіў скаўт майстар Іен Бэнпорат, які падзякаваў Украінскай і Беларускай грамадзкасьці за дапамогу. Пасьля прамоваў, украінскія скаўты танцывалі свае народныя танцы, а айцец Уладзімер, настаяцель Беларускае парафіі, і прадстаўніца украінскае грамады раздалі падарункі для прыбыўшых дзетак.

Пасьля афіцыйнай часткі адбылося знаёмства зь дзецьмі і іх кіраўнікамі. Дарэчы, усе дзеці і перакладчыкі размаўлялі па-беларуску.

**Р.М.**

Ахвяры на падарункі Дзецям Чарнобыля, якія ёсьць на адпачынку у Пэрце-Заходняя Аўстралія ад 23 чэрвеня да 22 ліпеня 1992 г.

| | |
|---|---|
| а. Уладзімер, матушка Ірэна і дачка | аўстр. дал. 50.00 |
| др. А. Бразоўскі | 50.00 |
| А. і С. Ніжнік | 25.00 |
| П. і В. Дарэўскі | 20.00 |
| К. і М. Люіс | 20.00 |
| Я. Раецкі | 20.00 |
| др. А. Бразоўскі | 50.00 |
| Е. Домброўскі | 20.00 |
| М. К. | 30.00 |
| М. і А. Мароз | 40.00 |
| З. і М. Ёлаб | 20.00 |
| сям'я Раецкіх | 50.00 |
| М. Мароз | 50.00 |
| Х. Дэнэйко | 20.00 |
| З. і М. Ёлаб | 10.00 |
| У. Раецкі | 20.00 |
| А. і С. Монк | 20.00 |
| Дзеці сп-ва Мастэляж і Монк | 20.00 |
| А. Ніжнік | 20.00 |
| З. Ёлаб | 10.00 |
| Разам | 565.00 |

### Ліста ахвяраў на Беларускія радыяпраграмы ў Пэрт у З. А.

| | |
|---|---|
| сп. Мікола К. | дал. 20.00 |
| сп-ня П. Патаповіч | 100.00 |
| сп-ва З. і А. Долінскі | 20.00 |
| сп-ні Е. Домброўскі | 50.00 |

Шчырае дзякуй усім М. Раецкі

### ПАПРАЎКА

У Но. 390 «Беларуса» у зацемцы аб тым што сп. Ян Барысевіч з Аўстраліі хацеў-бы адшукаць брата пакойнага Паўла Машчонскага, адрас павінен быць:

Jan Borysiewicz
6 Morelle Court
Mooroolbark, Vic. 3138 Australia

## СЬВ. ПАМ. АЎГЕН ПІЛЕЦКІ

Усіх родных і знаёмых паведамляем, што раптоўна, з Волі Ўсявышняга Бога, адыйшоў у вечнасьць Аўген Пілецкі.

Радзіўся нябожчык 25-га жніўня 1920 году ў горадзе Клецку у Беларусі.

Памёр 11-га траўня 1992 у Чыкага, ЗША. Пахаваны на магільніку Эльмвуд. У смутку пакінуў дзьве дачкі Таісу і Зою з сем'ямі, двух сыноў Ігара й Фёдара з сем'ямі, брата Лявона і сястру Ірэну з сем'ямі.

Няхай лёгкай будзе яму зямля Вашынгтона і няхай сьніцца яму Беларусь.

**Сям'я**

## ПАМЯЦІ МАРЫЛЬКІ МІКУЛІЧ-КАЛАДЗЕЙСКАЕ



Памерла Марылька Каладзейская, сьвет зьбяднеў адной сьветлай асобай, беларускае грамадзтва, асабліва ваколіц Бэры, страціла дзейнага, руплівага працаўніка, а мы — вечна пагодную, вечна гатовую памагчы — сяброўку. Марылька брала ўдзел ува ўсіх беларускіх імпрэзах і падзеях, што адбываліся якіх 150 км. напоўнач ад Таронта. Яна ўдзельнік высьвячэньня Беларускага памятнага Крыжа ў прошчы у Мідляндзе; яна сяброўка Арганізацыйных Камітэтаў усіх чатырох паломніцтваў да Беларускага Крыжа; яна суарганізатар беларускай выстаўкі на фэстывалі «Шматкультуралізм у Сімко Каўнты». Яна заслужыла на пашану й любоў канадыйцаў — прыяцеляў беларусаў у Бэры. Яна ня толькі ўдзельнік Канфэрэнцыі Прадстаўнікоў Беларускага Грамадзтва Канады, але й памагатар знайсьці адрасы беларусаў разсяных па Канадзе. Ціхая й сьціплая, скрозь дапаможная. Калі Уладыка Мікалай езьдзіў са сьвятой вадой, дом Каладзейскіх быў гасьцінным пераходным пунктам між Таронтам і поўначчу Канады ды гасьцінным пунктам для ўсіх беларускаўлюбіцеляў прыроды, рыбалоўства, паляваньня й добрага таварыства.

Пазнала я Марыльку Мікуліч у Таронта на пераломе 1949 і 1950 гадоў. Сустракалі мы разам зь ёю й з беларускай сямейкай Таронта 1950-ты год. Сустракалі яго не абы як, бо аж ў кватэрты сына Вінцэнта Масэй, які ў свой час быў Говэрнор Жэнэрал Канады, у свой час — рэктарам Таронтонскага унівэрсытэту. Помню Марыльку й перад вялікаднямі, як мы — беларусы Таронта — ладзілі супольныя разгаўленьні. Яна была адной з тых, што пяклі й прыносілі на супольны банкет вялікодныя бабкі. Помню Марыльку на багаслужбах, на сьвяткаваньнях 25-га Сакавіка, на першай і іншых Сустрэчах Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, на вечарынках, на памінках. Марылька жыла, працавала, цярпела й радавалася, сумавала й цешылася, і сяньня 18 ліпеня 1992 г. каля 5-ай гадзіны вечара перастала існаваць... і то толькі 13 дзён пасьля таго, як яна так прыгожа й разумна расказвала наведвальнікам беларускай выстаўкі ў музэі Сімко Каўнты, што напоўнач ад Бэры, пра беларускае прыкладное мастацтва, была прыемным праваднікомʼ.

Няма Цябе, Марылька, на гэтым сьвеце... Хто заступіць Цябе пры арганізацыі паломніцтва да Беларускага Крыжа, пры арганізацыі беларускіх выставак у Бэры?...

Пражыла Марылька Мікуліч-Каладзейская 71 год й ня цэлы месяц.

Нарадзілася 26 чэрвеня 1921 году ў Падлесьсі на Наваградчыне, закончыла сярэднюю школу ў Вільні. У Канаду прыехала ў 1949. У 1952 годзе выйшла замуж за Міколу Каладзейскага. Мела чацьвера дзяцей і шасьцёх унукаў. Пражыла не кароткае й карыснае жыцьцё.

Пакінула ў глыбокім суме мужа Міколу, дачок — Ірэну, Лінду, Валерыю, сына Аляксандра, тры ўнучкі й трох унукаў.

Успаміні Яе, Госпадзі, у валадарстве сваім.

А між намі хай жыве сьветаля й вечная Ёй памяць.

**Раіса Жук-Грышкевіч**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Ад нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | | |
|---|---|---|
| I. Гайдэль | ам. дал. | 125.00 |
| Др. М. Смаршчок | | 100.00 |
| Др. Л. Трусэвіч | | 100.00 |
| В. Русак | | 100.00 |
| Т. Цярэшка | | 50.00 |
| О. Канарчук | | 30.00 |
| М. Вазьняк-Гаўрылюк | | 30.00 |
| М. Грэбень | | 30.00 |
| Л. Саковіч | | 30.00 |
| Л. Бакуновіч | | 25.00 |
| Я. Скурат | | 25.00 |
| В. Бурдзь | | 25.00 |
| М. Ігнатовіч | | 25.00 |
| Р. Завістовіч | | 25.00 |
| Г. Дубяга (малодшы) | | 25.00 |
| А. Семянчук | | 20.00 |
| В. Ярашэвіч | | 20.00 |
| Др. Р. Жук-Грышкевіч (заміж вянка на сьвежую магілу сьв. пам. Васіля Стомы) | | 10.00 |
| Разам | | 795.00 |

*Замест кветак на магілу сьв. пам. Пётра Ганэцкага:*

| | |
|---|---|
| А. і О. Арэхва | 25.00 |

*Прыслана непасрэдна ў рэдакцыю:*

| | | |
|---|---|---|
| М. Латушкін (заміж кветак на магілу сьв. пам. Уладзімера Хмеля) | | 50.00 |
| Belarus Air Desk | ам. дал. | 200.00 |
| A. Loh | | 100.00 |
| Т. Аўдзей | | 50.00 |
| В. Ракуць | | 25.00 |
| К. Муха | | 25.00 |
| Я. Юхнавец | | 10.00 |
| Праз М. Лужынскага (дадатак да лісты зьмешчанай у № 390) | | 758.60 |
| М. Сызановіч | | 100.070 |
| Л. Бакуновіч | | 20.00 |

*Зьмест кветак на магілу сьв. пам. Аўгена Пілецкага:*

| | |
|---|---|
| I. Ільчук | 60.00 |
| I. Пануцэвіч і А. і Л. Беленіс | 50.00 |

Хоць я век свой дажываю,
Але ўсіх вас заклікаю:
Дабравольна, бяз прымусу
Памажэце «Беларуса»

*Прыхільнік*

Усім ахвярадаўцам, падпісчыкам і прадстаўніком шчыры дзякуй!

**Адміністрацыя «Беларуса»**

## СЬВ. ПАМ. ВАСІЛЬ СТОМА-СІНІЦА



Нарадзіўся 4-га сакавіка 1911 году у мястэчку Лужкі, Дзісьненскага павету, з бацькоў Івана і Сьцефаніды Стома.

Скончыў сяміклясавую школу ў Лужках. У далейшай навуцы перашкодзіла тое, што ён скалечыў нагу і ня мог нармальна наведваць школу. Мэдыцына ў гэным часе не стаяла высака, а да гэтага яшчэ вайна, так што ён быў вымушаны некалькі гадоў заставацца ў ложку. Але гэта не перашкодзіла яму цікавіцца друкаваным словам. Ён чытаў, што толькі мог дастаць, ня гледзячы ў якой мове. Прыносілі яму кніжкі з бібліятэкаў, публічных і прыватных, а да гэтага настаўнікі дабраахвотна памагалі пашыраць ягоныя веды. Меў добры голас і стараўся не адставаць ад другіх.

Калі пачуў трошкі хадзіць, зацікавіўся беларускімі арганізацыямі (нелегальнымі). Скончыў польскую школу, але з малых гадоў усе яго звалі «беларусам».

Прыехаў у ЗША у 1949 годзе. Удзельнічаў у заснаваньні Аддзелу БАЗА ў Ньд-Джэрзі ў 1950 годзе — быў сакратаром, а пазьней старшынёю Аддзелу. Быў адным з заснавальнікаў Парахвіі Жыровіцкай Божай Маці ў Нью-Брансвіку ў 1951 годзе, ды яе першым скарбнікам. Быў гэтаксама старшынём Сэктару рады БНР.

Васіль Стома быў усячасна актыўным у жыцьці асяродку. Працаваў у суботняй беларускай школцы, шмат аддаваў часу моладзі — ладзіў зь імі п'ескі, пастаноўкі.

Шырака супрацоўнічаў у беларускім эміграцкім друку: газэце Беларус, Беларускі Сьвет і іншых выданьнях.

Памёр сьв. пам. Васіль Стома 31-га траўня 1992 году. Пахаваны на беларускім магільніку ў Іст-Брансвіку.

**Сьпі, працаўнік і змагар!**

**Сябры**

## СЬВ. ПАМ. УЛАДЗІМІР ХМЕЛЬ



13-га ліпеня 1992 году пасьля цяжкой хваробы, адыйшоў у вечнасьць Уладзімер Хмель, пражыўшы 73 гады. Памёр на парозе свайго дому.

Паходзіў Валодзя Хмель з вёскі Бярозавец, Карэліцкага раёну ў Наваградчыне.

Пратаерэй а. Сяргей выканаў адпяваньне ў Пахавальным доме з дапамогай пеўчых. Паховіны адбыліся 16-га ліпеня на сямейным участку Элмуд Парк могілкаў у Чыкага. Праводзілі нябожчыка Уладзіміра а. Сяргей, родныя й прыяцелі.

Уладзімер Хмель быў актыўным беларусам, браў чынны ўдзел у адраджэньні сваe роднае Бацькаўшчыны Беларусі. Любіў сваe беларускія песьні і часта іх пяяў.

Нябожчык пакінуў у жалю і смутку родных: жонку Анну, дачку Нэлю з мужам Ангелё з сынам Юрыям і дачку Аналі Наталю з мужам Ленс і трое праўнукаў; сястру Людмілу з мужам Пётрам і з сынам Барысам Негода; сястру Веру Крэзол, сына Івана і жонку Тоні і дачку Эву Крэзол, радню у Беларусі, ды прыяцеляў і знаёмых.

Сьпі спакойным сном дарагі муж, дарагі браток, бацька, дзед і прадзед. Хай табе сьніцца родная зямелька Бацькаўшчыны Беларусі, а зямля вольнай Амэрыкі няхай будзе табе пухам.

Памяць па табе застанецца навекі у нашых сэрцах.

**Пётр Негода**

## СЬВ. ПАМ. ДОРЫН МАЦКЕВІЧ

Пасьля апэрацыі, неспадзявана, 22-га травеня сёлета адыйшла на вечны супачынак не дачакаўшы 60-ці годзьдзя, жонка нашага сябры Эдуарда Мацкевіча. Дорын Мацкевіч — англічанка — ў маладзейшых гадох брала актыўны ўдзел у наладжваньнях беларускіх нацыянальных і рэлігійных сьваткаваньняў у горадох Брадфорд і Лідс. Была зацікаўленая у гісторыі Беларусі і даволі добра яе ведала. Ня раз можна было чуць, як яна тлумачыла субяседнікам-англічанам, што такое Беларусь. Дорын была вельмі ветлая асоба і была папулярная ня толькі сярод беларускага грамадства але і іх дзяцей. Дзеля гэтага і яны, разам б бацькамі, прыехалі ў горад Брадфорд, каб разьвітацца назаўсёды са сваёй сяброўскай, якая аставіла ў суме мужа Эдуарда і дачку Джулію.

Няхай будзе пухам ёй родная зямелька.

**А. Гатковіч**

## СВ. ПАМ. ЯН СЯЎКОВІЧ

Народжаны ў пасёлку Хажоўшчына, Баранавіцкай акругі 1 красавіка 1920 г. Памёр 3-га ліпеня 1992 г. Пакойны быў актыўным сябрам Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі ад самага яго заснаваньня. Пахаваны на Гуннэрсбуры могільніку. Глыбокія спачуваньні дачкам Ірыне, Джэніфэр і іх сем'ям выказвае,

**Галоўная Управа ЗБВБ**

*Замест кветак на магілу сьв. памяці Янкі Сяўковіча ахвяравалі на «Беларуса»:*

| | | |
|---|---|---|
| Irene J. F. Brown/ Сяўковіч | анг. фунтаў | 50.00 |
| Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі | | 50.00 |
| Англа-Беларускае Таварыства | | 50.00 |
| Разам | | 100.00 |

## LETTER OF THANKS

Irene Janet Frances Brown and Family, daughter of the late Jan Joseph Siewkowicz, wishes to express their sincere thanks to all friends and members of the Association of Byelorussians and the Anglo Byelorussian Society for their kindness and expressions of sympathy. Thank you also to all those who made generous donations either towards the Chernobyl cause, to the Byelorussian newspaper or for flowers sent.